# Да рабочай і сялянскай моладзі ўсяго сьвету

*Таварышы і браты!*

5 верасьня 1926 году маладыя пролетары ўсіх краін будуць у 12 раз сьвяткаваць Міжнародны Юнацкі Дзень, дзень мобілізацыі сіл рабочай моладзі супроць буржуазіі, супроць імпэрыялістычных войнаў, супроць прыгнечаньня моладзі, супроць социял-дэмократычнай здрады.

У гэты дзень наша першая думка будзе ахвявована гэроічнаму *пролетарыяту Ангельшчыны*, праданаму правымі і левымі правадырамі Генэральнага Савету трэд-юньёнаў, Амстэрдамскім Інтэрнацыяналам і ўсёю міжнародную социял-дэмократыяю, у тым ліку і Соцыялістычным Інтэрнацыяналам Моладзі. Чым-бы непасрэдна ні скончылася стачка горнарабочых—усеагульная забастоўка і шматмесячная барацьба 1.200.000 ангельскіх вуглякопаў зьяўляюцца вялікімі здарэньнямі ў жыцьці міжнароднага пролетарыяту за апошнія гады. Наш першы лёзунг у XII Міжнародны Юнацкі Дзень павінен гаварыць:

*Далоў ангельскіх і міжнародных здраднікаў усеагульнай забастоўкі!*

*Актыўная дапамога ангельскім горнарабочым!*

Ангельскія консэрватары хочуць скруціць шыю ня толькі рабочым сваёй краіны, але і першай пролетарскай дзяржаве ў сьвеце—*Савецкаму Саюзу*.

У Польшчы, у выніку майскага перавароту, у ўлады стаў маршал Пілсудзкі, яры вораг Савецкай Рэспублікі і фактычны агент ангельскага ўраду.

Пад кіраўніцтвам Чэмбэрлена і Чэрчыля ён імкнецца стварыць блёк прыбалтыйскіх дзяржаў супроць Савецкага Саюзу, мобілізуе войска на мяжы Літвы, якую яму да гэтага часу не ўдалося ўцягнуць у антысавецкі блёк, і вядзе шалёную агітацыю супроць пролетарскай краіны. Рыхтуецца новы напад на цытадэлю міжнароднага пролетарыяту. Адсюль выцякае наш другі баявы лёзунг:

*Далоў рыхтуючыся напад на Савецкі Саюз!*

*Далоў ваенныя авантуры Чембэрлена і Пілсудзкага!*

*Няхай жыве Савецкая Рэспубліка—апора міравога пролетарыяту!*

Але ня толькі на ўсходзе Эўропы—ва ўсім сьвеце буржуазія з шалёнай энэргіяй рыхтуецца да новых войнаў. Сухаземныя, марскія і паветраныя ўзбраеньні растуць з кожным месяцам, нават днём.

Войны ў Кітаі, Сірыі, Марока, падрыхтоўка ваеннай авантуры ў Польшчы, прыход да ўлады Пуанкарэ-вайна і г. д.,—гэта сігналы, прадвяшчаючыя новыя сусьветныя войны. Мільёны маладых рабочых і сялян хочуць зноў абярнуць у пушачнае мяса. Дарослыя і маладыя социял-дэмократы імкнуцца ўсыпіць увагу рабочых ад гэтай грознай небясьпекі, прытрымоўваючы ілюзіі быццам-бы магчымага разбраеньня, прыкрываючы разбойнічую Лігу Нацый, абмяжоўваючыся пустымі дэкларацыямі аб спакоі. Рабочая і сялянская моладзь усіх краін павінна быць на пагатове. У Міжнародны Юнацкі Дзень яна заявіць:

*Далоў рыхтуючыяся імпэрыялістычныя войны!*

*Няхай жыве рэволюцыйная праца ў войсках!*

*Няхай жыве рэволюцыйна-вызваленчая барацьба прыгнечаных народаў!*

Часовую і частковую стабілізацыю капіталізму буржуазія імкнецца абярнуць у пастаянную і моцную, за кошт рабочай клясы і яго маладога пакаленьня, за кошт экспропрыяцый усіх працоўных і прыгнечаных.

Комуністычны Інтэрнацыянал Моладзі прызывае вас дэманстраваць 5-га верасьня.

*За скарачэньне працоўнага дню для моладзі!*

*За заработную плату ня ніжэй пражытачнага мінімума.*

*За належную дапамогу беспрацоўным!*

Тысячы лепшых барацьбітоў у Вэнгрыі, Польшчы, Італіі, Нямеччыне, Ангельшчыне, Амэрыцы, балканскіх дзяржавах і іншых краінах усё яшчэ мучацца ў турмах. Белым тэрорам хоча буржуазія прыпыніць рэволюцыйны дух пролетарыяту. У цэлым шэрагу краін умацоўваюць сваю дзейнасьць фашыцкія бандыты. Мы патрабуем:

*Вызваленьня Ракошы, Вейбергера і іншых таварышоў!*

*Барацьба з фашызмам і белым тэророрам!*

Мы гатовы змагацца супроць войнаў, супроць фашызму, супроць экономічнай патрэбы моладзі адзіным фронтам, разам з маладымі рабочымі, якія яшчэ застаюцца ў социял-дэмократычных шэрагах. Апошні конгрэс Соцыялістычнага Інтэрнацыяналу Моладзі замаўчаў, гэта значыць, баязьліва адхіліў нашы прапановы аб сумеснай дапамозе ангельскім стачачнікам, аб барацьбе супроць вайны, белага тэрору і фашызму, як ён сыстэматычна адхіляў усе нашы мінулыя прапановы аб адзіным фронце.

Але масы юных пролетараў павінны згуртавацца да барацьбы і супроць волі міжнародных кіраўнікоў соцыялістычнай моладзі. Мы прызываем вас дэманстраваць 5-га верасьня:

*За адзіны фронт працоўных!*

Дэлегацыі моладзі, якія наведалі Савецкі Саюз, ня гледзячы на саботаж социял-дэмократычных правадыроў, упэўніліся, што, ня гледзячы на ўсе цяжкасьці, рабочая моладзь Савецкага Саюзу мае 4 і 6 гадзінны працоўны дзень, 4-х тыднёвы аплачаны водпуск, заработную плату ня ніжэй пражытачнага мінімуму, школы фабрычна-заводзкага вучнёўства, што яна актыўна прымае ўдзел у будаўніцтве соцыялістычнай грамады.

На барацьбу з буржуазіяй рабочая моладзь павінна выступіць організавана і згуртавана, пад кіраўніцтвам тых організацый, якія сапраўды ахоўваюць яе жыцьцёвыя інтарэсы і правільна ўказваюць яе задачы. Такімі організацыямі зьяўляюцца комуністычныя саюзы моладзі. Ува ўсіх краінах перад Міжнародным Юнацкім Днём будуць праводзіцца кампаніі па ўцягненьню ў комсамол. Трэба ўмацаваць шэрагі маладых барацьбітоў за комунізм.

Дзеля гэтага:

*Кожны сьвядомы малады рабочы і селянін павінен быць сябрам Комсамолу!*

Мы прызываем вас змагацца пад сьцягам КІМ'у.

*Усе ў шэрагі дэмонстрацыі 5-га верасьня!*

*Няхай жыве Міжнародны Юнацкі Дзень!*

*Няхай жыве сусьветная рэволюцыя!*

**Выканаўчы Камітэт Комуністычнага Інтэрнацыяналу Моладзі.**




№ 16 | Жнівень 1926 г. | Менск

# Да XII-га Міжнароднага Юнацкага Дню

Гісторыя Міжнароднага Юнацкага Дню—гэта гісторыя барацьбы працоўнай моладзі ўсяго сьвету супроць пануючых клясаў.

У гэтым годзе Міжнародны Юнацкі Дзень застае нас у зусім другіх абставінах, чымся ў мінулым. Калі ў мінулым годзе мы мелі некаторы ўпадак міжнароднага рабочага руху, дык у сучасны момант мы бачым вялікія ўзрушэньні ў бок рэволюцыйнай барацьбы ў шэрагах рабочай клясы.

Барацьба працоўных на ўсходзе, усенароднае галасаваньне ў Нямеччыне супроць выплаты даўгоў ранейшым князём, апошняя ўсеагульная забастоўка ў Англіі і барацьба вуглякопаў,—усё гэта яскрава пацьвярджае, што пролетары ўсяго сьвету зноў сталі на шлях адчыненай рэволюцыйнай барацьбы.

З гэтых абставін і выходзяць асноўныя лёзунгі XII-га Міжнароднага Юнацкага Дню.

Першы лёзунг МЮД'ю, які стаіць на грунце барацьбы працоўнае моладзі,—гэта лёзунг барацьбы супроць небясьпекі новых імпэрыялістычных боек. Апошнія выпады ангельскіх „цьвёрдалобых“ лордаў супроць Савецкага Саюзу і падрыхтоўчыя манэўры авантурыстага Пільсудзкага ў Польшчы пацьвярджаюць, што ў паветры зноў „чуваць порахам“. Вось чаму лёзунг барацьбы супроць вайны павінен быць зноў пастаўлены на першы плян.

У той час, калі экономічнае становішча працоўнай моладзі СССР з кожным днём паляпшаецца, калі рабочая моладзь атрымала ад свайго пролетарскага ўраду 4-х і 6-гадзінны працоўны дзень, дык у капіталістычных старонках працоўная моладзь працуе, як і дарослыя, па 10-12 гадзін у суткі, а часам і больш.

Адсюль наш другі лёзунг—барацьба за 4-х і 6 гадзінны працоўны дзень для працоўнай моладзі ўсяго сьвету.

Ня гледзячы на шкурніцтва соцыялістычнае моладзі, справа аб'яднаньня шэрагаў міжнароднага юнацкага руху ідзе і павінна ў далейшым ісьці наперад, праз галовы згодніцкіх кіраўнікоў організацый моладзі па-за межамі. Адсюль яшчэ адзін важны лёзунг, лёзунг барацьбы за адзінства міжнароднага працоўнага юнацкага руху.

Чым далей, тым мацней становіцца тэрор і перасьледваньні пануючых клясаў супроць рэволюцыйнага руху ва ўсім сьвеце.

Дзесяткі і сотні тысяч барацьбітоў сядзяць у капіталістычных турмах. Лёзунг XII-га МЮД'у супроць белага тэрору і рэакцыі, а таксама ўсемагчымага падтрыманьня барацьбітоў пролетарскай рэволюцыі.

У вапошнія гады сярод працоўных гушчаў усяго капіталістычнага сьвету прыкмячаецца вялікае імкненьне і зацікаўленасьць да Савецкага Саюзу. Працоўныя гушчы за межамі ня вераць ужо ў плёткі і хлусьню буржуазнага друку. Яны захацелі пазнаць праўду аб першай на сьвеце пролетарскай рэспубліцы. Яны імкнуцца да хаўрусу з працоўнымі СССР. Вось чаму адным з лёзунгаў 12-га Міжнароднага Юнацкага Дню зьяўляецца ўсемагчымае падтрыманьне дарослых і юнацкіх дэлегацый рабочых у СССР. Вось чаму моладзь усяго сьвету павінна протэставаць супроць недапушчэньня дэлегацыі рабочае моладзі СССР у Аўстрыю.

Акрамя гэтых агульных лёзунгаў, кожная сэкцыя Комінтэрну моладзі выстаўляе яшчэ іншыя лёзунгі і вымаганьні дзеля пролетарскае моладзі кожнае старонкі паасобку.

Ленінскі комсамол павінен раней усяго памятаць аб нашых братэрскіх саюзах, якія вядуць барацьбу ў вельмі цяжкіх умовах супроць капіталістычнага ладу. Мы павінны дапамагчы ўсім, чым зможам, Комінтэрну моладзі, сэкцыяй якога мы зьяўляемся. Адгэтуль перад намі стаіць задача ўзмацненьня сувязі і матэрыяльнае дапамогі нашым братом, якія змагаюцца на Захадзе і Ўсходзе.

УсеЛКСМ, а разам і ЛКСМБ у сучасны момант з партыяй і працоўнымі Савецкага Саюзу ідуць па шляху соцыялістычнага будаўніцтва. Аднэй з нашых задач павінна быць узмацненьне нашае працы і дзейнасьці ў умовах гэтага вялікага будаўніцтва. У Міжнародны Юнацкі Дзень мы павінны памятаць аб адзінстве шэрагаў нашае партыі і ленінскага комсамолу. Вось чаму, памятуючы інтэрнацыянальныя задачы, мы павінны працягваць узмацненьне працы нашага Саюзу, ісьці да новых дасягненьняў. Працуючы ў мірных умовах будаўніцтва, мы павінны разам з гэтым памятаць аб пагрозе новых боек, накіраваных супроць Савецкага Саюзу. Вось чаму мы павінны ўзмацняць нашу Чырвоную армію і флёту, трымаць „порах сухім“ і ў патрэбны момант быць падрыхтаванымі, даць адпор спробе перашкодзіць нашаму мірнаму соцыялістычнаму будаўніцтву.

І яшчэ адна задача стаіць перад усімі комсамольцамі да дню МЮД'у,—гэта пагалоўны ўзнос інтэрнацыянальнага пятачка з мэтай падтрыманьня нашых замежных братоў у іхняй барацьбе.



# Комсамольцы*)

*Апавяданьне* **А. Стэпавога**

II

Ганна ляжала цяжка хворая. Галава і ўсё цела моцна пылала. Вочы глыбока ўпалі. Раскіданыя косы лезьлі ў рот.

Упяліўшыся ў адно месца сухімі, бліскучымі вачыма, яна прыглядвалася доўга, доўга... А пасьля, нечакана, нібы штосьці прыпомніўшы, кідалася на лаве, біла худымі, жоўта-бледнымі рукамі аб сьцяну і прарывістым голасам несамавіта выкрыквала:

— Ня трэба нам Сьцяпана!.. Ён ня наш!.. Гнаць яго! Гнаць!..

Старэнькая, падсьлепаватая маці, падпершы галаву рукамі, схілілася над сталом і плакала.

Скрыпанулі дзьверы—на парозе паказаўся Сьцяпан у новай, жоўтай сарочцы, туга падпяразаны шырокім паясом, у бліскучых ботах:

— Добры дзень, цётка...

— ?

— Добры дзень!..—мацней прывітаўся Сьцяпан.

— Чаго табе?..—падняла на яго Ганніна маці свае чырвоныя ад сьлёз вочы.

— Дык вось... Я прынёс Ганне... Яна хворая—так вось ёй...—і ён працягнуў руку да стала з якімсьці белым ванзэлкам у ёй.

— Што тут?..

— Ды тут булкі... сухарыкі белыя... гэта Ганне маці прыслала...

— А-а-а-а!.. Сьцяпан!..—толькі цяпер спазнаўшы яго, працягла старая і ў момант, штось сьцяміўшы, закрычала:

— Вон, злыдзень!.. З голаду падохнем, а ад вас ня возьмем!.. Вон!.. у-у-у-у-у... ідалы!..



Вон, злыдзень!..

— Дык чаго-ж вы?.. Хіба-ж я што?

— Кажу табе—вон!..—і, схапіўшы кусок чорствага хлеба, што ляжаў на стале, замахнулася ім на Сьцяпана.

Ён хутка выбег з хаты і толькі за варотамі, чырвоны ад злосьці, абапёрся рукамі на падпорку старое хаты.

— Апаганіў дзяўчыну, а цяпер бегае... прайдзісьвет акаянны...—лётала па хаце з пакрыўленым ротам і раскудлачанымі сівымі валасамі, згорбленая, худая, змучаная маці Ганны, а сьлёзы бязупынна капалі на зямлю.

Старая баба думала, што Сьцяпан напаіў яе дачку якімсьці чароўным зельлем.

* * *

... Вечарам у Сьцяпана сядзелі амаль усе комсамольцы за сталом, на якім стаялі дзьве парожныя бутэлькі з-пад „рускай горкай“.

— Я нядаўна быў у Ганны...—расказваў хлопцам Сьцяпан:—Толькі ўвашоў у хату, а яна як закрычыць на мяне: „Вон, злыдзень!.. Я вас усіх з комсамолу выганю!.. Я пакажу вам, як над Ганнаю сьмяяцца!.. На каленях перад мною лазіць будзеце—прасіць, каб зьлітаваліся!..“

— Ды ўжо-ж так і гаварыла?..—запытаў Пятрусь недаверлівым голасам.

— Ня верыш, дык ідзі сам паслухай...—зазначыў Сьцяпан, моцна пацісьнуўшы плячыма.

Некалькі хвілін усе маўчалі.

— А можа і праўда яна так казала?..—паглядаючы на астатніх хлапцоў, нясьмела зазаварыў Міхась Боўтуз—батрак, што з бацькам пасьвіў каровы ўжо 3 гады падрад.

— Ды хто-ж яе паслухае?.. Хіба-ж яна адна можа так зрабіць?

— Ніколі!..

— А чаму і ня можа?.. Пойдзе ў райком дый нагаворыць колькі захоча...

— А і праўда!.. ня толькі нагаворыць, а можа і другое што... Ёй ня доўга... Нездарма Кудраўскага цягнула да сваёй хаты, як той прыяжджаў...—дадаў Пятрусь.

— А гарадзкі ласы да дзяўчат...

Усе змоўклі.

— Так яно і будзе... Нездарма-ж казала...—падкрэсьліў Міхась, згорбіўшыся і хістаючы круглаю кудлатаю галавою.

— Не, ня будзе!..—стукнуў кулаком па стале Сьцяпан.—Калі захочаце, дык ня будзе... Я ведаю, як ёй крыльлі падцяць...—і ён, прыпыніўшыся, ганароўна паглядаў на астатніх.

— А як гэта?..—няцерплячы, усе разам запыталі хлопцы.

— Вось як... Я зараз пакажу...—і, хутка выбегшы ў другі пакой, праз хвіліну вярнуўся і разьвярнуў на стале скрутак размалёванай тоўстай паперы.

Хлопцы, нічога не разумеючы, вытрашчылі вочы і паглядалі то на Сьцяпана, то на паперу.

А ён, паціраючы між каленамі рукі, сьмяяўся.

— Э-э-э-э-х-х-х... вы!.. Дзе-ж вашыя галовы?.. Ну, слухайце!..

---

*) Глядзі „М. Ар.“ № 15.

**Газэта беспартыйнай моладзі сяла Пятрыкоўкі.**

*Складала 45 чалавек.*

По вуліцах Ганна ходзіць
І п'яна рыгае,
Беспартыйную моладзь
У комсамол склікае.
Гэй, вы, хлопцы і дзяўчаты,
Хутчэй ідзеце ў комсамол—
Там мы будземо, браточкі,
Піці моцны самагон...
А што-ноч яна склікае
Чорнабрывых дзяцюкоў...

Так цалуе і абнімае,
Нібы тыя сто ваўкоў.
А за ёю ўсе дзяўчаты
Цягнуць гарных хлапчукоў—
Хутка дзеці, як ваўчаты,
Не знайдуць сваіх бацькоў...
Слава Ганне, слава Ганне—
У комсамоле вучылася...
Мы—хлопцы нядрэнныя:
Чакаем, каб пачапілася...

— Цяпер разумееце?.. Добра?..

Хлопцы струсілі...

— Добра дык яно і добра, ды толькі ўсё гэта хлусьня... — апамятаўшыся, спробваў супярэчыць Міхась, але яго перабіў Сьцяпан:

— Хлусьня?.. Ну, дык чакай праўды, пакуль Ганна з Кудраўскім з комсамолу вытураць... Гэтага хочаш?..

— Ды не...

— Ну то-то-ж!.. А цяпер вып'ем?..

— Вып'ем!..

Дрыжэла чарка ў непаслухмяных руках, гарэлка сушыла думкі і кудысьці далёка заганяла ў абдураных, забітых хлапцоў пачуцьцё пра дрэнны ўчынак.

Зноў, як і першы вечар, разышліся далёка за поўнач...

* * *

А Ганна падкідалася на лаве пад абразамі і несамавіта крычэла:

—Вон Сьцяпана!.. Ня трэба нам такіх!.. Вон!..

Сьлёзы старое маткі дробна капалі ёй на гарачы і змарнелы твар...

* * *

Праз два дні Сьцяпан разам з Пятрусём пісалі ліст:

ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ.

Райкому ЛКСМ.

Пасылаем вам газэту беспартыйнай моладзі вёскі Пятрыкоўкі пра быўшага сакратара Ганну Гарбачову і дадаём нашую пастанову пра яе выключэньне. А таксама дадаём справўку ад сельсавету, што газэта вісела на дзьверах будынку...

Часовы Сакратар Пятрыкоўскай
яч. ЛКСМ **С. Клочка.**

— Добра будзе?..

— А ці паверацць?..—запытаў яго Пятрусь.

— Паверацць... Толькі маўчаць... Сам пайду...

— Вязі,—бязвольна махнуў рукой Пятрусь і, усеўшыся на край крывога заслончыка, кусаў на руках пазногці... А ў грудзях у яго таксама нешта грызла...

* * *

Сьцяпан за 40 вёрст вярхом на кані, кожную хвіліну мацаючы сябе за грудзі, дзе ляжала „паведамленьне“ разам з газэтаю, прывёз у райком.

* * *

А праз тыдзень адтуль паперка атрымана была ў ячэйцы:

ВЫПІС

З протоколу пасяджэньня бюро райкому. . .

Слухалі:
1. Пра сакратара Пятрыкоўскай ячэйкі ЛКСМ.

Ухвалілі:
1. Гарбачову Ганну за падрыў комсамольскага аўторытэту і разлажэньне ячэйкі (п'янства і проституцыю) — выключыць з саюзу бяз права ўступленьня. Сакратаром ячэйкі зацьвердзіць Клочку Сьцяпана.

Сакратар райкому **Кудраўскі.**

Сьцяпан радаваўся, бо дасягнуў большага, чымся думаў... Цяпер яму—сакратару ячэйкі—дарога адчынена ўсюды.

Сьнілася яму ноччу, што ён у шумлівым, вялікім горадзе... У цэнтры, на шырокім пляцы, стаіць школа і прывабна ківае яму сваім верхам, такім бліскучым, як званіца ў Пятрыкоўскай царкве... А сам ён з КІМ'ам на грудзёх, адзеты ў шэранькую суконую шынэльку з бліскучымі гузікамі, паважна ступае, ганарыста глядзіць перад сабою і не адказвае на прывітаньне Міхася Боўтуза...

III

Худая, бледная прышла Ганна ў суботу на комсамольскі сход. Прышла і ціханька села каля стала. Міхась Боўтуз адсунуўся ад яе і ўпіліўся вачыма ў падлогу, нібы ўглядзіў там штосьць цікавае. Астатнія хлопцы таксама ў поўголаса гутарылі паміж сабою і баяліся проста глянуць Ганне ў твар.

Адзін Сьцяпан стаяў каля стала, пераліствоў паперы і пасьміхваўся.

— Ну, таварышы, пачнем?..

— Давай!..

— Ужо пара!..—адклікнуліся хлопцы.

Сьцяпан толькі чакаў гэтага:

— Тав. Гарбачова, прашу вас выйсьці,—паважна зьвярнуўся ён да Ганны.

— Чаму?—слабым голасам запытала яна.

— Сёньня сход у нас зачынены.

— Ну і што-ж з таго?

— А тое, што табе ня можна быць на зачыненых сходах.

— Чаму гэта так?—надта зьдзівілася Ганна. Яна адчула яшчэ штосьці нядобрае тады, калі ўбачыла Сьцяпана каля стала.

— Беспартыйным не дазваляецца.

— Дык хто-ж беспартыйны?

— Ты!
— Я?.. адкуль ты ўзяў?..
— А вось сьведкі,—і наўмысьля далікатна ён падаў ёй паперку з райкому.

Ганна хутка схапіла яе, упялілася сваімі вачыма і чым далей, жоўты твар яе рабіўся яшчэ



Ганна хутка схапіла яе...

больш блядым. Ногі ў каленах сагнуліся, яна цяжка апусьцілася на лаву. Галава ўпала на стол, цела ўздрыгвала...

* * *

Раніцою вышла Ганна з вёскі, і толькі позна ноччу дацягнулася да райкому. Дзьверы замкнуты на замок, няма нікога...

Пасядзела на цэмантованым ганку, цяжка, зморана схіліла галаву на палатняную торбачку з куском чорстваго ячменнага хлеба ў ёй, скурчылася і так заснула...

Калі прышоў Кудраўскі—ня чула. А ўбачыўшы яго, хутка схапілася і радасна прывітала, бо думала, як і раней, спаткае яе ён вясёлымі, бадзёрымі словамі...

— Чаго прышла?..—ледзяным голасам запытаў яе Кудраўскі.

Ад яго голасу і пахмурнага вобліку ёй стала так холадна, як зімою, калі паўночны вецер пракрадваўся праз вацяную кофту і лізаў за ёю лёдавым языком маладое цела. Адказаць зараз-жа не магла, толькі нахіліўшы галаву, хусткаю, сьціснутаю ў кулак, прыціскала вочы...

Нарэшце, сабраўшыся з сіламі, праз сьлёзы прагаварыла:

— Завошта вы мяне выключылі?
— Як завошта? Сама ведаеш, калі прышла.

Ускіпела Ганна. Нібы хто жорсткімі няўмелымі рукамі сьціснуў змучанае сэрца. Схапілася з лавы і, упіліўшыся блїскучымі вачыма на Кудраўскага, закрычала прарывістым голасам:

— Як вы сьмееце зьдзеквацца з мяне?.. Што я вам?..—засела штосьці ў горле, язык не варочаўся...

— Хто зьдзекуецца?.. Што ты?.. Ня верыш—вось паглядзі сама...—і, выцягнуўшы з скрынкі „паведамленьне“ і газэту, разгладзіў на стале рукою.

Ганна пабляднела, пачырванела, зноў пабляднела... Перад вачыма нібы жывы стаяў Сьцяпан, злосна пасьміхваючыся:

— Гэта няпраўда!.. Хлусьня!.. Ня верце!.. Гэта Сьцяпана помста за тое, што я была супроць яго прыёму ў комсамол... Гэта ён...
— Які Сьцяпан?.. Што за помста?..—нічога не разумеючы, запытаў Кудраўскі.
— Клочка—сын гандляра... той, што ў нас цяпер сакратаром...
— Як—сын гандляра?.. Ён-жа бядняк... Ды што-ж ты пляцеш, Ганна?..
— Хто, ён бядняк?.. Адкуль вы гэта ўзялі?.. Ён з бацькам гандлюе...
— Ды як-жа гэта так?.. Няўжо гэта праўда?..—запытаў самаго сябе Кудраўскі і, насупіўшы бровы, нешта доўга думаў...

А пасьля з сур'ёзным воблікам падышоў да Ганны і лёганька палажыў на яе плячо руку:

— Вось што, Ганна!.. Ты ідзі да хаты, а гэтую справу мы самі разьбяром... Будзь упэўнена—я сам за яе вазьмуся...

Ня ішла, а ляцела Ганна да хаты... Усю дарогу нешта сьмяялася ў грудзёх і весела сьпявала... А 40 вёрст зрабіліся 10-ма...

* * *

— Дык вось, таварышы!.. У райкоме маюцца весткі пра тое, што газэту пісала не беспартыйная моладзь, а вы самі... Для таго—там усё хлусьня... Нам трэба гэта пытаньне высьніць... толькі памятайце, што за такія рэчы і пад суд можна пайці...—казаў Кудраўскі хлопцам. А яны сядзелі моўчкі, нібы вады ў рот набралі, і не глядзелі на яго. Толькі адзін Сьцяпан, пасьміхваючыся, адказаў:

— Ды завошта пад суд, калі гэта ня мы.
— Ня вы, дык ня пойдзеце...—перабіў яго Кудраўскі і, зьмяніўшы голас, пачаў мякка, нібы ўпэўнены, што гэта зрабілі яны, казаць далей:
— Ня добра так комсамольцам рабіць... Ня добра самым з сябе насьміхацца... Вы-ж толькі падумайце, што нарабілі... Пасьмяяліся з Ганны, а гэтым самым і з сябе... Хто Ганна?..—комсамолка!.. Хто вы?..—комсамольцы! Вось і выходзіць, што не над Ганнаю насьмяяліся, а самі над сабою...



Вузенькім колам абкружылі Ганну хлопцы...

*(Працяг на 3 стар. вокладкі).*

# МАЛАДЫЯ ПЕСЬНЯРЫ



Т. Паўлоўскі

## Барысаў

Ажыў, як волат пасьля бойкі...
На целе раны зіхацяць—
Нага-ж дрыжачая з запалам
Імкнецца ворага таптаць.
Мой любы край, горад родны.
Чаго, чаго ня зьведаў ты!
Гадоў вялікага змаганьня
Наўкол раскіданы сьляды:
Тут Чычагоўскае вар'яцтва:
Равы і наспы, дол—гарой.
Ёсьць году пятага ахвяры:
Скляпы, паросшыя травой.
А вынік панскага банкету,
І роспач белага арла—
Упісан кроўю ў памяць люду
Падковай ўланскага каня.
Шчэ так нядаўна—кожны помніць—
Руіны грэлі чарнатой:
Цяпер электрыка галубіць
Паўстаўшы гораду прастор.
Сэрца весела так б'ецца,
Ўтрорыць радасьць навакол,
То аўтобусаў рыканьнем,
То грымотай цягнікоў.
Дні бягуць, мацнее сіла,
Раны хутка гоіць час,
Краю родны, говар любы,
Вось за што кахаю вас.

Барысаўшчына.

## Ой, у полі, полі...

Ой, у полі, полі,
Пры зялёным гаі,
Дзе цячэ крыніца
Й салавей сьпявае,—

Колісь з тэй крыніцы
Я ваду насіла,
А у полі тым я
Жала і касіла.

Не сабе касіла,
Не сабе я жала—
На паноў праклятых
Цяжка працавала.

Ой, бывала прыдзеш
З поля. Дзеці плачуць,
Кажуць: „Дай нам хлеба,
Дай нам есьці, маці."

Паглядзіш на дзетак,
Што ім есьці трэба...
Пабяжыш, ня ўцерпіш
Прасіць к пану хлеба.

Іншы раз з поўпуда
Дасьць мукі і скажа:
„Заплаціў за месяц"...
Іншы раз адкажа.

Ой, як я у пана
З дзеткамі страдала,
Дваццаць год я сохла,
Сохла й галадала...

. . .

Ой, у тым вялікім
У шырокім полі,
Як і ўсе батрачкі,
Атрымала волю.

Не кашу ўжо больш я,
На паноў ня жну я,
А з раднай сямейкай
Ня сябе працую.

Гэта, у тым-жа полі
Пры зяленым гаі,
Дзе цячэ крыніца
Й салавей сьпявае.

Васіль Віцька

## Куты родныя

Мне калісьці казала матка,
выпраўляючы ў дарогу:
„Што сядзець, маё дзіцятка,
дый ня выседзіш ты нічога.
Сьвет шырокі, ідзі з богам,
прад табою шляхі незваротныя,
Толькі памятай свае парогі,
толькі памятай куты родныя
. . . . . . . . . . . . . . . .
Помню восені дзень насуплены
з цёмна-хмарнымі перакатамі,
І бяз горкіх дум і бяз суму я
разьвітаўся вось з роднай хатаю.

А цяпер-жа я ад парогаў тых
ў шумным горадзе, ой далёка як,
Панясло жыцьцё з нейкім рогатам
бурапенных хваль дый галёкае.
І бурлівымі пералівамі
пацякло яно веснародамі,
Пазабыў куты я нудлівыя—
праца ўпартая дала ходу мне.
Выбачайце-ж мне, куты родныя!
што забыўся на вас, на лапцюжныя,
Даль імклівая, даль свабодная,
Эх, прывабіла валацужніка...

К. Губарэвіч



# Комсамол разам з партыяй

## За адзінства і дысцыпліну, за Ленінізм!

*(Ліст ЦК УсеЛКСМ аб выніках пленуму ЦК і ЦКК УсеКП(б) і аб прапрацоўцы яго пастаноў у комсамоле)*

### Новая опозыцыя скацілася да троцкізму

1

Аб'яднаны ліпнёўскі пленум ЦК і ЦКК УсеКП зьяўляецца найважнейшай падзеяй у жыцьці партыі за апошні пэрыод. Асаблівасьці і вялікае значэньне гэтага пленуму зьяўляюцца ў тым, што ён быў скліканы ў сувязі з сур'ёзнай пагрозай адзінству партыі з боку аб'яднанай опозыцыі, у складзе якой знашлі свае месца „троцкізм, новая опозыцыя і нават абломкі былой „рабочай опозыцыі", якая сталася, відавочна, меншавіцкай групай. Вастрата рознагалосьсяў ленінскага ЦК з паказаным опозыцыйным блёкам, вялікая важнасьць пытаньняў, разгледжаных і вырашаных пленумам, дружны адпор, якім пленум адказаў на фракцыйныя дзеяньні опозыцыі,—усё гэта падкрэсьлівае падвойную паважнасьць ліпнёўскага пленуму і неабходнасьць уважлівага і ўсебаковага вывучэньня ўсіх яго пастаноў.

На гэтым пленуме зусім рэльефна вызначыліся ідэёвая эволюцыя, скат новай опозыцыі да троцкізму і паланеньне новай опозыцыі ідэямі і тактыкай троцкізму. На гэтым-жа пленуме павадыры блёку па сутнасьці справы ня толькі адмовіліся адмежавацца ад меншавіцкіх поглядаў Мядзьведзева, узялі пад сваю абарону ліквідатара Асоўскага, але і павялі новую атаку супроць ЦК.

2

Праца аб'яднанага пленуму прашла ў вельмі складаных абставінах.

Міжнародныя адносіны СССР з капіталістычнымі дзяржавамі за апошні час характарызуюцца вядомым абвастрэньнем, якое выклікаецца антысавецкай кампаніяй кіруючых колаў Ангельшчыны і вайсковымі падрыхтоўкамі Польшчы.

У галіне інтэрнацыянальнай клясавай барацьбы перш за ўсё неабходна адзначыць нядаўнюю ўсеагульную забастоўку ў Ангельшчыне, забастоўку ангельскіх гарнякоў, якая цяпер адбываецца, і ўзмацненьне наступленьня капіталу на 8-мі гадзінны працоўны дзень у цэлым шэрагу краін.

Унутры СССР партыя ў цяжкіх умовах кіруе справаю соцыялістычнага будаўніцтва, упарта працуе над перамогаю гаспадарчых зацяжараньняў, ажыцьцяўляе рэжым экономіі і скарачэньне разматых нявытворчых выдаткаў, працуе над узмацненьнем саюзу рабочае клясы і сялянства і кіруючай ролі пролетарыяту ў нашай дзяржаве.

Пленум ЦК і ЦКК разглядзеў наступныя пытаньні: 1) Урокі ангельскай забастоўкі. 2) Вынікі перавыбараў саветаў. 3) Кватэрнае пытаньне. 4) Аб хлебазагатоўках і 5) Даклад ЦКК па справе Лашэвіча і іншых.

Па ўсіх гэтых пытаньнях пленум вынес адпаведныя пастановы, якія ўсе організацыі Комсамолу павінны ўважліва вывучаць і дапамагаць партыі ў іх ажыцьцяўленьні.

Пастановы пленуму зьяўляюцца адзіна правільнай політыкай партыі ў сучачны пэрыод, у процівалегласьць лініі опозыцыі.

### Памылковая ацэнка опозыцыяй сусьветнага становішча

3

Усеагульная забастоўка ў Англіі цалкам пацьвярджае ацэнку Комінтэрнам сусьветнага становішча, як паласы адноснай і часовай стабілізацыі капіталізму; опозыцыя, адмаўляючы гэтую ацэнку, саскоўзвае з рэек правільнай бальшавіцкай політыкі і сваімі прапановамі дэзорганізуе партыі Комінтэрну. Уся практыка забастоўкі пацьвярджае, што ўсеагульная забастоўка, як мэтод барацьбы, правільна і што забастоўка можа перамагчы толькі ў такім выпадку, калі яна будзе перарастаць у адчыненую політычную барацьбу. Здрадніцтва Генэральнага Савету, дзе „левыя" капітулянты пашлі за адкрытымі правымі здраднікамі, ставіць ва ўсю вышыню задачу бязьлітасных разаблачэньняў як правых, так і „левых" правадыроў Генсавету і лёзунг барацьбы за іх зьмену ў кіруючых органах ангельскага профруху.

Комуністыя павінны, як ніколі, з асаблівай энэргіяй павесьці працу ў профсаюзах, заваёўваючы масы і вядучы іх па шляху рэволюцыйнай клясавай барацьбы.

Міжнародны пролетарыят павінен узмацніць братэрскую дапамогу бастуючым гарняком. Са-

вецкія профсаюзы павінны ўмацоўваць згоднасьць ангельскіх рабочых з рабочымі СССР.

„У сувязі з гэтым трэба лічыць зусім немэтазгодным выхад профсаюзаў СССР з ангельска-рускага камітэту. У ангельска-рускі камітэт рабочыя СССР накіроўвалі сваіх прадстаўнікоў зусім не затым, што спадзяваліся перагаворамі з вярхушкай опортуністычных правадыроў замяніць задачу рэволюцыйнагаператварэньня капіталістычных краін, профсаюзы СССР ішлі ў ангельска-рускі камітэт з-за сувязі з той масай, пад націскам якой павярнулі ўлева профсаюзныя правадыры (тэзісы аб уроках ангельскай забастоўкі)“.

Прапанова аб выхадзе ангельска-рускага камітэту зьяўляецца „левым“ мігам, які можа толькі паслабіць уплыў Комінтэрну на ангельскі (і міжнародны) пролетарыят і сказіць тактыку адзінага фронту. Але астаючыся ў ангельска-рускім камітэце, нашыя профсаюзы павінны, як і раней, падлягаць бязьлітаснай крытыцы зраднікаў і капітулянтаў, як правых, так і „левых“.

Шкода ад прапанаванай опозыцыяй адклікаючай тактыкі ў адносінах ангельска-рускага камітэту зусім відавочна, бо яна вядзе да адрыву ад масы, да пасыўнасьці (якая прыкрываецца дробнабуржуазнай рэволюцыйнасьцю) і здольна толькі ўзмацніць тэндэнцыі да выхаду з профсаюзных організацый.

Гэтая няправільная і шкодная лінія опозыцыі не сустрэла аніякага падтрыманьня і ў сэкцыях Комінтэрну. Усе без выключэньня замежныя компартыі, як і выканком Комінтэрну, рашуча выказаліся супроць опозыцыі.

Пленум ЦК і ЦКК ухваліў дзейнасьць Політбюро і дэлегацыі ЎсеКП у Комінтэрне, выказаную ў (ужо апублікаваных) тэзісах „аб уроках ангельскай забастоўкі“.

## Курс партыі на ажыўленьне саветаў поўнасьцю апраўданы

4

Падвядзеньню вынікаў перавыбараў саветаў пленум аддаў вялікую ўвагу. Значэньне мінуўшай перавыбарнай кампаніі вялікае тым, што гэта кампанія зьявілася першай сур'ёзнай праверкай курсу партыі на ажыўленьне саветаў і прыстасаваньне савецкага дэмократызму.

Мінулыя перавыбары саветаў паказалі, што на першым месцы па сваёй актыўнасьці сярод усіх груп насельніцтва стаіць рабочая кляса. Аднак у той-жа час значна ўзрос удзел у выбарах дробна-буржуазных пластоў параўнаўча з мінулымі гадамі.

У вёсцы найбольшай актыўнасьцю адзначаецца маса серадняков, актыўнасьць вясковай бедноты хоць некалькі і паднялася, але ўсё яшчэ адстае ад актыўнасьці другіх пластоў сялянства. Далёка няўсюды вясковая бедната выявіла неабходную актыўнасьць і організаванасьць.

Асноўныя політычныя вынікі кампаніі зыходзяць да таго, што перавыбары паказалі ўзрост кіруючай ролі пролетарыяту і яго партыі і паляпшэньня політычных абставін у краіне, у прыватнасьці на вёсцы.

Курс партыі на ажыўленьне саветаў сябе поўнасьцю апраўдаў. Політыка ажыўленьня саветаў, якая ўяўляла як усямернае разьвіцьцё актыўнасьці рабочае клясы, так і кіруючай сілы, узмацоўвае саюз пролетарыяту і вясковай бедноты з асноўнай масай сялянства і спрыяе канчатковаму падрыву політычнага ўплыву буржуазных элемэнтаў на працоўныя масы. Але разам з гэтым ЦК у сваіх пастановах адзначыў і тыя нашыя буйныя недахопы, якія ўскрыла кампанія па перавыбарах саветаў (інструкцыя ЎсеЦВК, няправільнае прымяненьне яе на мясцох, „хвасьцізм“, які праявіўся комуністымі ў асобных мясцох і інш.).

Пленум ЦК і ЦКК усе гэтыя недахопы адзначае для таго, каб партыя і ў далейшым працягвала ўпартую працу над іх выпраўленьнем.

Пленум падкрэсьліў задачу паляпшэньня савецкага апарату і перамогу яго бюрократызму і адарванасьці ад мас праз шырокае ўцягненьне працоўных ва ўсю працу саветаў і яго сэкцый і ў асаблівасьці неабходнасьць працягваць вылучэньне і выхаваньне беспартыйнага актыву вакол саветаў. Пленум адзначыў слабы ўдзел комсамолу ў працы па перавыбарах саветаў.

З свайго боку ЦУсеЛКСМ прапануе ўсім мясцовым організацыям, на падставе ўважлівага вывучэньня вынікаў перавыбараў і пастаноў партыі аб працы ў саветах, узмацніць удзел Комсамолу ў савецкай працы і дапамагчы саветам у іх грамадзянскай дзейнасьці.

Пленум ЦК і ЦКК цьвяроза ўзважыў цяжкасьці, якія стаяць на нашым шляху, падлічыў небясьпекі, якія стаяць перад намі ў сувязі з узрастаючай актыўнасьцю варожых і поўварожых нам соцыяльных груп, і прыняў пастановы, здольныя паралізаваць небясьпекі і перамагчы цяжкасьці.

Асноўная лінія ў працы партыі, як і раней, накіравана на ўсямернае ўзмацненьне актыўнасьці пролетарыяту, на ўмацаваньне сувязі з асноўнай масай сялянства, на большае ўцягненьне ў працу саветаў батрацтва і бедноты, на паляпшэньне працы саветаў і павышэньне якасьці парткіраўніцтва саветамі.

Выступленьне опозыцыі супроць лініі партыі, зацьверджанай 14-м зьездам, з старымі абвінавачваньнямі Цэнтральнага Камітэту ў забвеньні інтарэсаў бедноты, у „кулацкім ухіле“, у перараджэньні і т. п., зацьверджаньне опозыцыі, што перавыбары паказваюць перасоўку сіл у бок кулака і дробнай гарадзкой буржуазіі,—зьяўляецца перапевам старых мотываў новай опозыцыі, прыпраўленых троцкізмам.

Пленум адкінуў і абсудзіў усякую суматоху і пераацэнку небясьпек, якія стаяць на нашым шляху, як прыводзячых да няправільнай орыентоўкі партыі ў процэсах, якія цяпер адбываюцца ў краіне.

Суматоха перад цяжкасьцямі неўласьціва бальшавіцкай партыі.

Опозыцыя, якая абанкруцілася і ў гэтым пункце сваёй політыкі, не сустракае спачуваньня як у партыйных колах, так і ў колах Комсамолу.

Асабліва належыць спыніцца на пытаньні аб пролетарскім характары нашай дзяржавы, у якім опозыцыя аддае рэвізіі вучэньне Леніна.

Тав. Ленін, падкрэсьліваючы пролетарскі характар нашай дзяржавы, казаў:

— „*А на справе мы маем рабочую дзяржаву*, папершае, з тэй асаблівасьцю, што ў старонцы пераважае не рабочае, а сялянскае насельніцтва, і, падругое,—рабочая дзяржава з бюрократычным

скажэньнем“. *(Збор твораў том XVIII, частка 1, старонка 33).*

Калі на XIV-м зьезьдзе опозыцыя аддавала сумненьню социялістычны характар дзяржаўнай прамысловасьці, дык цяпер віднейшыя правадыры опозыцыйнага блёку ўжо загутарылі аб далёка непролетарскім характары нашай дзяржавы, пакрываюць ліквідатарскія грахі сваіх аднадумцаў, якія бяруцца пацьвярджаць „рабоча-сялянскі“ характар савецкай дзяржавы, скажаюць Леніна і скочваюцца на глебу буржуазнай дэмократыі ў лягер нашых відавочных ворагаў—меншавікоў.

Пленум рашуча адкінуў гэтыя чарговыя скажэньні ленінскага вучэньня аб дзяржаве, неабходныя опозыцыі для таго, каб даказаць „перараджэньне“ савецкага строю і няправільнасьць політыкі Цэнтральнага Камітэту. Не падлягае сумненьню, што ўся партыя рашуча асудзіць гэтыя спробы з нягоднымі сродкамі, гэта новае спакушэньне на падставе ленінізму.

### Падняць і ўпарадачыць рабочае кватэрнае будаўніцтва

5

*Кватэрнае пытаньне* зьяўляецца ў сучасны момант адным з самых вострых пытаньняў для рабочых.

Пленум ЦК і ЦКК констатаваў узрост разбурэньня кватэр і неўрэгуляванасьць усёй справы кватэрнага будаўніцтва, пастанавіў стварыць сталы фонд рабочага кватэрнага будаўніцтва, вызначыў шляхі адхіленьня недахопаў мінулага і бягучага будаўніцтва і паставіў задачу ўзмацненьня кватэрнай коопэрацыі. Цэнтральная задача—падняць і ўпарадачыць рабочае кватэрнае будаўніцтва. Сюды павінна быць накіравана ўся ўвага савецкіх і гаспадарчых установаў, таксама, як і кватэрнай коопэрацыі.

З тае прычыны, што існуючая да гэтых часоў кватэрная плата не забясьпечвае рамонту дамоў, даводзячы іх да разбурэньня, пленум лічыць мэтазгодным павышэньне кватэрнай платы, каб яна давала гарантыю рамантаваць дамы і іх адбудаваньне. Аднак правядзеньне павышэньня кватэрнай платы павінна быць узгоднена з тэмпам узросту рэальнай зарплаты рабочых і служачых.

6

*Хлебазагатоўчая кампанія* зьяўляецца справай найвялікшай гаспадарчай і політычнай важнасьці. Ад посьпеху хлеба-загатовак залежыць тэмп гаспадарчага адбудаваньня СССР і ўмацаваньне яго камандуючых вышынь.

У бягучым годзе партыя зрабіла належныя захады, каб абмінуць паўтарэньне абмылак мінулага году і здолець падрыхтавацца да спатканьня ўраджаю. Пленум ЦК, які адбыўся ў красавіку месяцы, абгаварыў пытаньне організацыі і скарыстаньне хлебазагатоўчага апарату.

Ліпнёўскі пленум вызначыў агульны плян загатоўчай кампаніі, вызначыў зьвязаную з хлебазагатоўкамі політыку цэн, крэдытаваньне дастаўленьня вёсцы прамысловых тавараў і г. д.

Дырэктывы пленуму накіраваны да таго, каб праз выкарыстоўваньне ўраджаю і правільную організацыю хлебазагатовак узмацніць рост социялістычнага накапленьня, умацаваць дзяржаўную прамысловасьць і камандуючыя позыцыі пролетарскай дзяржавы.

Ленінскае пытаньне: „Хто каго“ вырашаецца на карысьць дзяржаўнай прамысловасьці супроць прыватна-капіталістычнага накапленьня. Зацьвярджэньні опозыцыі, што прыватна-капіталістычнае накапленьне папераджае социялістычнае накапленьне—ёсьць няпраўда, ёсьць грубае скажэньне сапраўднасьці.

### За сталёвае адзінства і жалезную дысцыпліну

7

*Справа Лашэвіча і іншых* ставіць пытаньне аб утвораным унутрыпартыйным становішчы ў сувязі з фракцыйнай працай опозыцыі.

Нямногалікавая група таварышоў, якіх погляды пацярпелі поўнае банкроцтва на XIV-м зьезьдзе партыі, уступіла на шлях фракцыйнай нелегальнай працы супроць партыі, зрабіўшы крок у бок расколу, што ставіць рубам пытаньне аб адзінстве нашай партыі.

Пленум ня мог не рэагаваць на падобныя дзеі. Падрыў адзінства УсеКП(б) азначыў-бы раскладаньне і падрыў падстаў пролетарскай дыктатуры, аб чым неаднакратна напамінаў Уладзімер Ільліч.

„Асноўнай прадпасылкай усіх посьпехаў бальшавіцкай партыі заўсёды былі сталёвае адзінства і жалезная дысцыпліна, сапраўднае адзінства поглядаў на глебе ленінізму“. *(З рэзолюцыі ад 17-га студзеня 1925 г.).*

Пленум ЦК і ЦКК рэзка асудзіў раскольніцкія дзейнасьці опозыцыі і вынес пастанову аб выключэньні тав. Лашэвіча з складу ЦК і аб зьняцьці таварыша Зіноўева з пасады сябра Політбюро, затым што ніці кіраўніцтва фракцыйнай працы фактычна выходзілі ад тав. Зіноўева, і ён ня лічыў для сябе магчымым адмежавацца ад справы таварыша Лашэвіча і іншых, а, наадварот, узяў апошніх пад сваю абарону супроць партыі.

Гульба опозыцыйнага блёку з асколкамі былай „рабочай опозыцыі“, якая выявілася ў адкрыта-меншавіцкую, па сутнасьці сваіх поглядаў, групу (глядзі адказ ЦО на ліст Мядзьведзева), і адказ опозыцыі ясна і канчаткова адмежавацца ад Мядзьведзева і Шляпкіна яшчэ больш падкрэсліваюць правую небясьпеку ў нашай партыі.

Увачавідкі—опозыцыйны блёк супроць партыі Леніна і яе ЦК збоку ўсіх былых груповак, ня раз ужо асуджаных партыяй і цяпер зноў паднялых галаву. *Але УсеКП(б) была і будзе моцна адзінствам сваіх шэрагаў.* У партыі цярпімы рознагалосьсі па тым ці іншым пытаньням, але ў партыі Леніна зусім нецярпімы фракцыі і нелегальныя групоўкі. І няхай пастановы пленуму будуць апошнім папярэджваньнем тым таварышом, якія сталі на шлях барацьбы з адзінствам партыі і яе ленінскім кіраўніцтвам.

Спробы расхістаць адзінства партыі і падмяніць гэтае адзінства свабодай фракцый і груповак, пачаўшыя гуляць дзе-колечы ідэйкі аб дзьвёх партыях і аб дапусьцімасьці ў нашай партыі фракцыйных утварэньняў,—гэтыя спробы будуць партыяй безадкладна перасякацца, бо падрыў адзінства УсеКП(б), адзначаў-бы пачатак раскладаньня асноў дыктатуры пролетарыяту.

Партыя застанецца адзінай і павядзе рабочую клясу да новых перамог.

*Ленінскі комсамол, які ідзе разам з партыяй, будзе цьвёрда стаяць на абароне адзінства супроць размаітых ухілаў і хістаньняў.*

Бальшавіцкае выхаваньне моладзі магчыма толькі на падставе сталёвага адзінства і жалезнай дысцыпліны шэрагаў ленінцаў. Спробы „разбалтаць“ комсамол ні да чога не прывядуць. *Комсамол адданы наказам Ільліча, і разам з партыяй ён будзе захоўваць, як зяніцу вока, адзінства партыі і комсамолу.*

### Задачы ленінскага комсамолу

8

Задачы ленінскага комсамолу ў сучасны момант зыходзяць да таго, каб на падставе пастаноў партыі павесьці сваю практычную працу.

*Шырокае растлумачваньне пастаноў ліпнёўскага пленуму ЦК і ЦКК павінна зьявіцца прадпасылкай посьпеху гэтай працы.*

Удзел комсамолу ў агульнай працы партыі павінен пайсьці ў наступным кірунку:

1. Упартая барацьба за ленінскія погляды і ўмацаваньне штодзеннага кіраўніцтва партыі ва УсеЛКСМ.
2. Далейшая праца па ўмацаваньні пролетарскай базы комсамолу і ўцягненьне ў саюз усёй рабочай моладзі, занятай у вытворчасьці.
3. Замацаваньне ўжо дасягнутых значных посьпехаў ва ўзросьце, вылучэньні і выхаваньні рабочага і батрацка-бядняцкага актыву комсамолу і далейшая праца ў гэтых адносінах.
4. Умацаваньне пролетарскага ўплыву і кіраўніцтва ў вёсцы, узмацненьне працы сярод батрацтва і беднаты; далейшае ўмацаваньне ўплыву КСМ на серадняцкую моладзь, лепшую частку апошняй уцягваючы ў свае шэрагі.
5. Узмацненьне працы комсамолу ў саветах (у яго сэкцыях, камісіях і нарадах) і ўпарадачаньне справаздачнасьці абраных у саветы перад насельніцтвам.
6. Няўхільнае і шырокае ўцягненьне комсамольцаў і моладзі ў гаспадарчае будаўніцтва, у барацьбу за рэжым экономіі, за якасьць продукцыі—супроць распусты і безгаспадарнасьці.
7. Палепшаньне пастаноўкі масава-экономічнай і адукацыйнай працы сярод рабочай моладзі, і ўмацаваньне сувязі і ўдзелу комсамолу ў профсаюзах.
8. Падняцьце ідэёвай якасьці выхаваўчай працы і плянавай пастаноўкі выхаваньня комсамольцаў і моладзі ў духу ленінізму.
9. Дапамога партыі ў барацьбе з бюрократызмам—за аздараўленьне ўсяго савецкага апарату.
10. Паступовае правядзеньне ў жыцьцё пастаноў зьезду УсеКП(б) і УсеЛКСМ аб унутрыкомсамольскай дэмократыі, аб барацьбе з казёншчынай і бюрократызмам у саюзным апараце і ўцягненьне ў актыўную працу самых шырокіх мас комсамолу.
11. Умацаваньне бальшавіцкага адзінства шэрагаў УсеЛКСМ і ўпартая барацьба з усімі і ўсялякімі спосабамі раздрабіць комсамол і паслабіць у ім кіраўніцтва партыі і яе правадыра—Цэнтральнага Камітэту УсеКП(б).

*ЦК УсеЛКСМ заяўляе аб сваёй поўнай згодзе з усімі пастановамі ліпнёўскага пленуму ЦК і ЦКК.*

*ЦК УсеЛКСМ заяўляе, што ў яго шэрагах няма і цені хістаньняў па ўсіх пытаньнях політыкі і партыі і яе практычнай дзейнасьці усё роўна, як і па пытаньнях комсамольскай працы.*

Заклікаючы да супольнай працы над ажыцьцяўленьнем пастаноў пленуму ЦК і ЦКК, Цэнтральны Камітэт УсеЛКСМ прапануе ўсім мясцовым організацыям павесьці шырокую працу па растлумачваньні вынікаў пленуму ЦК і ЦКК, усебакова абгаварыўшы іх на пленумах камітэтаў і ў ячэйках УсеЛКСМ.

4-га жніўня 1926 г.

**Бюро ЦК УсеЛКСМ**

## Пад гармонік

**(Частушкі)**

Гэй, зайграй, мая тальлянка,
Каб мне весела было,
Ўскалыхні сталёвым звонам
Дзевак, хлопцаў—усё сяло!

Гэй, зайграй, мая тальлянка,
На сталёвы галасы,
Зьверху ўніз прайду па плянках
Ды й прыцісну на басы.

Йду па вуліцы шырокай
На тальлянцы рэжу.
Тру-ля-ля да тру-ля-ля!
На тальлянцы рэжу!

Бачу, пекная дзяўчына
Сядзіць, богу моліцца,
Думаю, якім-бы чынам
З ёю пазнаёміцца.

Бліжэй к дзеўцы падышоў—
Дзеўка усьміхнулася.



Я за ручку яе ўзяў—
Вельмі-ж прыглянулася.

Броўкі чорны, вочкі сіні,
Чырвоны губкі,
Твар ад сонца загарэлы,
Беленькія зубкі.

З чорнаброваю дзяўчынкай
Запісацца хочацца!..
Гэй, іграй, мая тальлянка!
Лам-ца дры-ца го-ца-ца!

Сваю жонку-чорнаброўку
Ў комсамолкі запішу,—
Пра „чырвонае вясельле“
У „Араты“ напішу.

Гэй, іграй, мая тальлянка,
Каб нам весела было!
Ўскалыхні сталёвым звонам
Дзевак, хлопцаў—усё сяло!

**Юрка Доўгі**



# НАША ЖЫЦЬЦЁ

## Добры пачын

*(Чачэвіцкі райкомол. Магілеўшчына)*

У ліпні месяцы гэтага году Чачэвіцкі райкомол склікаў нараду гаспадароў-комсамольцаў сумесна з гаспадарамі-барадачамі, якія вядуць ужо свае гаспадаркі панnetworkаму, пакультурнаму. На нараду зьявілася каля шасьцідзесяці чалавек. Заслухаўшы даклад аб выніках вясеньняй пасяўной кампаніі і пляну васеньняй пасяўной кампаніі, адчыніліся спрэчкі, у якіх адзначалі ўсе тыя дасягненьні, якія яны атрымалі пры вядзеньні гаспадаркі пакультурнаму. Земляробы - барадачы адзначылі, якую карысьць дае новы спосаб апрацоўкі зямлі. З выступленьняў характэрна адзначыць прадмову селяніна-культурніка—*Мельнікава*, які адзначыў: „Я вяду сваю гаспадарку пакультурнаму больш пяці год, у мяне і сад ёсьць, і пасевы ўсе лепшыя, мне завідуюць суседзі, што ў мяне ўсё добрае,—зямлі як у іх, так і ў мяне пароўну, душ таксама. У мяне ёсьць балота тры дзесяціны, з якога я зрабіў добрую сенажаць, засеяўшы канюшынай ды ціmafeеўкай, а суседнія, якія датыкаюцца да майго, і па сёнешні дзень яшчэ пустуюць. Усё гэтага я дасягнуў, слухаючы парад агропома, які растлумачыў мне карысьць прыбытковых культур і інш.“.

Яго словы гучэлі на ўвесь пакой, ён тут-жа хацеў улажыць усім у душы любоў да земляробства, пастаўленага пакультурнаму, ён заклікаў усіх да сябе, каб пераканацца ў дасягненьнях сваімі вачыма. Тут на гэтай нарадзе комсамольцы як-бы трымалі акзамін, і неабходна адзначыць, што ў гэтым годзе яны вытрымалі. „Там, дзе ёсьць комсамольцы, у тых вёсках пашырыўся пасеў культурных злакаў, прашла добра кампанія ачысткі насеньня, разышлося больш штучных угнаеньняў“,—адзначыў райагроном у сваёй прамове. Наконт васеньняй кампаніі вырашылі скарыстаць саюзныя і культурныя дні, прыцягнуць да іх гаспадароў-культурнікаў, каб яны абмяняліся сваім вопытам, як правесьці сяўбу жыта, карысьць ад зяблявай успашкі і г. д.

Наогул, Чачэвіцкія комсамольцы заваёўваюць пастунова аўторытэт сярод беспартыйнага сялянства, вядзеньнем сваёй гаспадаркі пакультурнаму.

Больш такіх комсамольскіх нарад з сялянамі-культурнікамі, каб супольнымі сіламі найхутчэй паднясь сельскую гаспадарку на належную вышыню.

**Юнселькор Янка**

## Няўдалае назначэньне.

*(В. Худаўцы, Крупскага раёну, Барысаўшчына)*

У нашай вёсцы організавана зьвяно юных піонэраў. Кіраўніком зьвяна назначан комсамолец *Сямён Крышкавец*, але кіраўніком толькі лічыцца па паперы; ня гледзячы на тое, што т. Крышкавец выдзелен ячэйкаю ўжо даўно, аднак, яшчэ ня было ніводнага сходу піонэраў. Дзеці вядуць сябе дрэнна: лаюцца, кураць, б'юцца. Каб гэтага ня было, неабходна ячэйцы на гэта зьвярнуць увагу, і для кіраўніцтва піонэрамі выдзеліць больш падрыхтаванага комсамольца, а т. Крышкоўцу даць іншую працу.

**Свой**

## Гадавіна сельска-гаспадарчага гуртка.

*(Вёска Заказінец, Варатоўскі с. с., Меншчына)*

1 ліпня г. г. ў вышэйпамянёнай вёсцы сельска-гаспадарчы гурток адсьвяткаваў гадавіну сваёй працы. К гэтаму сьвяту сябры гуртка зрабілі сьцяг, запрасілі музыкантаў, зрабілі на дварэ сцэну, каб можна было кожнаму паглядзець спэктакль, запрасілі таксама прадстаўнікоў з раёну дзеля правядзеньня гэтага сьвята.

Плян сьвяткаваньня быў наступны: 1) урачыстае пасяджэньне, 2) экскурсыя на меліорацыйны (балотны) вучастак, 3) спэктакль.

На пасяджэньні кіраўнік зрабіў справаздачу аб працы гуртка. З яго справаздачы відаць было, што сялянства з дапамогаю с.-г. гуртка павялічылі пасеў канюшыны, пасеў бульбы і пачалі сеяць сэрадэлю і караньплоды, што гуртком у гэтым годзе закладзена 7 паказальных вучасткаў: мэліорацыйны на балоце, правільны пасеў бульбы, з ачышчанай пшаніцай, з угнаеньнем, баранаваньне жыта, пшаніцы, канюшыны. Зімою праводзяцца



тэорытычныя занятκі. Сяляне добра адзываюцца аб гуртку, і ў гэты дзень у сябры гуртка ўступіла 5 хлапцоў і 2 дзяўчыны.

Пасьля справаздачы кіраўніка было прывітаньне ад ўсіх організацый вёскі. Пасяджэньне зачынілі сьпевамі беларускай марсэльезы.

Пасьля пасяджэньня пад чырвоным сьцягам гуртка, з музыкай, хадзілі на балотны вучастак, дзе сяляне ўбачылі, як расьце на балоце віка, авёс, бульба, пшаніца, ячмень, лён і эммер.

Райагроном прачытаў лекцыю аб культуры балот. Зьвярнуўшыся з балота, быў пастаўлен спэктакль на сельска-гаспадарчую тэму. Цяпер з новымі сіламі і з новым складам сяброў возьмемся за працу на наступны год.

**Сябра гуртка**

## Забылі

У вёсцы *Худаўцах* (*Крупскага р. Барысаўшчыны*) маюцца гурткі: драмгурток і сельхозгурток. Але як адзін, так і другі зусім не працуюць. Амаль што ня ўсе комсамольцы не зьяўляюцца сябрамі ў гэтых гуртках.

Працу гурткоў трэба ажывіць.

**Свой**

## Дасягненьні добрыя

*(Аб'яднаная Беларуская Вайсковая Школа)*

Для замацаваньня набытых ведаў у палітразвіцьці комсамольцаў-чырвонаармейцаў вырашылі зрабіць „політвайну“. Яшчэ загадзя ўсе комсамольцы былі разьдзелены на дзьве часткі, дзьве староны: чырвоных і сініх. З самых моцных комсамольцаў быў складзены „штаб галоўнага кіраўніцтва“. Таксама некалькі досыць моцных комсамольцаў былі пакінуты ў рэзэрве на выпадак падмогі аднэй з ваюючых старон, якая ў працэсе вайны выкажа сябе слабейшаю.

Увесь сэнс „політвайны“ ў тым, што кожная з ваюючых старон задае адна другой пытаньні на тэму аб 7-м зьезьдзе ЛКСМБ. Пытаньні пасылаюцца асоба выдзеленымі з комсамольцаў „дыплёматычнымі кур'ерамі“.

Вынікі „політвайны“ вельмі добрыя. У працэсе „вайны“ выявілася, што амаль ня ўсе 100 проц. комсамольцаў дакладна прапрацавалі пытаньні зьезду, а калі й былі такія, што ня цьвёрда ведалі, то за час вайны яны папоўнілі свае веды.

Варта было-б, каб іншыя ячэйкі выкарысталі гэты мэтод політзаняткаў.

**Ю. Доўгі**

## Сходы комсамольскай ячэйкі пад сьпевы папа

*(Сяло Худаўцы, Крупскага раёну, Барысаўскай акругі)*

У вечар перад нядзеляй 6-га жніўня ў нашай вёсцы быў склікан сход Шыйскай яч. ЛКСМБ.

На сходзе прысутнічала шмат беспартыйнай моладзі. Усе былі зацікаўлены дакладам аб партыйнай і комсамольскай дысцыпліне і этыцы. Але мясцовы поп, у хаце якога клюб і дзе адбываўся сход, сабраў сваіх дачок і ў суседнім пакоі пачаў развучваць царкоўныя псалмы і песьні. Прысутныя вельмі абурыліся. Сход чуць ня быў сарваны. Ня гледзячы на запрэты з боку ячэйкі, поп ня браў пад увагу, а рабіў, як сам хацеў.

Цікава, ці доўга яшчэ мы будзем слухаць сьпевы псалмоў?

Ці збавімся ад такога прыемнага суседства?

**Слухач**

## Шырэй працу з піонэрамі

*(Падсельская ячэйка, Магілеўшчына)*

Піонэрская праца за апошнія месяцы зусім не вядзецца, асабліва пасьля сканчэньня заняткаў у школе, ня гледзячы на тое, што піонэратрад прымацован да ячэйкі і маецца важаты-комсамолец. Трохі лепш справа абстаіць у вёсцы *Фэліксполле*, дзе праца вядзецца хаця раз у тыдзень.

У чэрвені м-цы была праведзена сумесная праца комсамольцаў і піонэраў. Але вынікаў пажаданых ад нарады няма.

Наогул, дзіцячы рух па сельсавету развіты слаба, хаця ёсьць у сельсавеце і ячэйка ЛКСМБ і КПБ, якія, на вялікі жаль, мала зьвяртаюць увагі на маладое пакаленьне—дзяцей. Так не павінна быць! Больш увагі дзецям-піонэрам!

**Юнселькор Янка**

## Моладзь жыве пановаму

*(В. Горадзень, Пухавіцкі раён, Меншчына)*

У справе культурнага жыцьця вёсак нашага сельсавету першай зьяўляецца моладзь вёскі *Горадзень.* Сярод нашай моладзі ёсьць партыйцы і комсамольцы, і ўся моладзь добра пісьменная, актыўная і жыве новым жыцьцём, змагаецца з розными старымі звычаямі.

Усякія вечарынкі, спэктаклі моладзь праводзіць бяз спрэчак. Па выпісцы газэт і часопісяй—зьяўляецца першаю: на тры двары 1 газэта. Таксама выпісваюць і „Малады Араты“. Моладзь другіх вёсак, бярэце прыклад з жыцьця нашай моладзі!

**Ал. Сьпежка.**



## Сельска-гаспадарчыя веды прападаюць дарэмна

*(Аршаншчына)*

Цэлую зіму працаваў сельска-гаспадарчы гуртор пры *Кабыльскай яч. ЛКСМБ.* Цэлую зіму комсамольцы і беспартыйныя хадзілі, каб павялічыць свае веды па сельскай гаспадарцы. Але надышла вясна, зімовы пэрыод вучобы скончыўся, а з ім скончыў працаваць і гуртоқ. Веды атрымаць—атрымалі, але да практыкі іх не прыстасоўваюць.

Ці варта-ж было засноўваць гуртоқ і хадзіць на яго?

Памойму, не!

**Юнкор В. Галадкоўскі**

## Жыве ў цемры

*(В. Бабы, Пухавіцкі раён, Меншчына)*

Вёска Бабы хоць надта вялікая, але яшчэ да гэтага моманту жыве ў цемры. Моладзь яшчэ верыць у розныя папоўскія выдумкі, ходзіць у царкву. Праўда, ёсьць сярод гэтай моладзі—5 комсамольцаў і адна комсамолка. Але бяда ў тым, што гэтыя комсамольцы ніякай культасьветнай працы не вядуць. Лічацца толькі на паперы комсамольцамі і вераць у папоўскія выдумкі.

Вось прыклад: комсамольцы—*Паўловіч Ан. і Лінькік М.*, калі ім прышлося ажаніцца, дык абодва—гайда ў царкву да папа. Спачатку на „іспаведзь“, а потым і к „вянцу“ Дзівяцца сяляне і моладзь акалічных вёсак, ды кажуць: „Гэтыя бабоўскія комсамольцы толькі да жаніцьба ў комсамоле“. Газэт і часопісяй бадай што і ня выпісваюць,—на 56 двароў—1 экз. „Бел. Вёскі“ і 1 экз. „Чырвонай Зьмены“.

Пухавіцкі культ. аддзел, зьвярні ўвагу на цемру гэтай вёскі! А райком ЛКСМБ на ячэйку!

**Ал. З. Сьцежка**

## 25 год на ахове сялянскага багацьця

25 ліпня Старадароская самаахвотная пажарная дружына адсьвяткавала 25 гадовы юбілей свайго існаваньня. За некалькі дзён яшчэ да 25 ліпня ў мястэчку было прыметна, што пажарная дружына рыхтуецца да чагосьці новага: пажарнае дэпо і сарай прыбраны ў зеляніну і ўсялякія сьцяжкі. Увесь інвэнтар дружыны вафарбаваны ў чырвоны колер.

Вечарам—у суботу 24-га—уся амальшто праца скопчана. Па вуліцах разьвешаны гірлянды, сьцягі і лёзунгі.

Пажарная дружына, пастроіўшыся ў шарэнгу, складна ідзе на станцыю,—яна сёньня сустракае гасьцей з Слуцку і Урэчча.

І вось падыходзе цягнік з Слуцку, музыка іграе марш, пад музыку якога выходзіць з вагонаў дэлегацыя, і ўсе разам накіроўваюцца ў дэпо.

У нядзелю 25-га ліпня.

11 гадзіна раніцы.

Па ўсім мястэчку з вежы разносіцца сыгнал „збор“, пасьля якога пачынаюць сьцякацца з ўсіх канцоў мястэчка ахвотнікі-пажарнікі ў сваіх формах. Каля дэпо ўрачыстасьць нязвычайная; сёньня ўсе выглядаюць урачыста, нават лёзунг на пажарным сараі—„Усе на барацьбу з чырвоным пеўнем“ сёньня ярчэй гарыць.

Дружына ў поўным зборы са сваім абозам накіроўваецца на дэманстрацыю па вуліцах мястэчка.

Каля будынку Раённага Выканаўчага Камітэту пастроілася дружына. З будынку РВК выходзіць камісія для прыёму параду. Прывітаньні ад усіх організацый вёскі папаўняюць паветра. Пасьля абмену прывітаньнямі Слуцкая і Урэцкая дэлегацыі даруюць у гонар юбілею „адрасы“.




Адзначалася уся праца і перажываньні дружыны за 25 год.

А 5 гадзіне ўвечары запрошаныя госьці і дружына зьбіраецца ў „дэпо“, дзе былі прыгатаваны пачастунак.

Вечарам быў дадзен дармовы спэктакль. Позна вечарам разышліся па хатах госьці і жыхары мястэчка, здаволеныя сьвятам.

**П. Руткевіч**

М. Старыя Дарогі,
Слуцк. акр.

## Сьпяваем беларускія песьні

*(А. Б. В. Ш.)*

У вадным з нумароў „Маладога Аратага“ былі зьмешчаны дзьве беларускія песьні: „Што і за месяц...“ і „Чорнаморац“. Словы хутка былі вывучаны, як кажуць „на зубок“. Адзін з курсантаў ведаў мотывы, і праз некаторы час уся школа пачала сьпяваць гэтыя песьні. Вельмі-ж яны спадабаліся чырвонаармейцам.

„Малады Араты“, дай новыя песьні!

**Курсант Адамчык**

## Прымацуйце парт'ячэйку

*(Талькаўская ячэйка ЛКСМБ, Меншчына)*

Наша ячэйка за апошнія месяцы заваявала належны аўторытэт сярод сялянства.

Відаць гэта з таго, што ў кожнай грамадзкай організацыі, у сельсавеце, у коопэрацыі можна бачыць працаўнікоў-комсамольцаў.

Але побач з дасягненьнямі і аўторытэтам ячэйкі, маюцца адмоўныя моманты ўнутры самой ячэйкі. Так, напрыклад: сярод сяброў ячэйкі заўважваецца варожасьць, няма спайкі, зайздрасьць і інш.

Усё гэта дрэнна, і гэтага не павінна быць. А ня будзе яно тады, калі да нашай ячэйкі будзе прымацавана парт'ячэйка.

А гэтага яшчэ няма.

**Н. Міклуш**

### Камсамольцы гаспадары

*(Упаўская яч. ЛКСМБ, Лёзьнянскага р.)*

Упаўская ячэйка невялічкая, але-ж ня гледзячы на гэтае ў ёй вядзецца продукцыйная праца. Ячэйка з'організавалася ў канцы 1925 году; назіраецца хуткі яе рост. У летні пэрыод ячэйкай вядзецца праца па падняцьці сельскай гаспадаркі. Шмат комсамольцаў перашлі па шматпольле і вядуць гаспадарку, паказацельна для другіх сялян. Сярод сялянства праводзяць гутаркі, як, напрыклад, аб скашываньні сенажаці ў цьвяту, аб умелым прыгатаўленьні корму для жывёлы, аб раньняй успашцы папару і г. д. Але ў першую чаргу яны ўсё гэта праводзяць не на словах, а на справе ў сваёй гаспадарцы. Дзякуючы такой працы аўторытэт ячэйкі сярод сялянства павялічыўся.

**Я. Ш.**

### Як я здабываю насеньне канюшыны

*(Упаўскі сельсавет, Віцебшчына)*

Гаспадарка майго бацькі невялікая і вельмі цяжка сабраць грошай, каб купіць насеньне канюшыны. Вось я і параіў яму пакінуць пляцоўку канюшыны для насеньня. Пляцоўку выбраў самую лепшую з пахілам к поўдню. І ў сучасны момант, калі паглядзеў я на сьпелыя галоўкі канюшыны, дык аказалася, што пустацьвету няма. Кожная галоўка поўна добрага насеньня. Касіць канюшыну гэту ня буду, бо можа высыпацца насеньне, буду жаць і зьвязваць у снопікі, а потым малаціць пранікам. Такім чынам, я забясьпечу сваю гаспадарку насеньнем канюшыны. Таксама раю зрабіць гэтае і другім комсамольцам.

**Я. Ш.**



# Гісторыя Міжнароднага Юнацкага руху

## Гісторыя Міжнароднага Юнацкага руху

МЮД—Міжнародны Юнацкі Дзень сапраўднае міжнароднае сьвята пролетарскай моладзі. У гэты дзень выходзяць на вуліцу масы моладзі захаду і ўсходу, моладзь савецкіх рэспублік і краін, дзе ідзе ўпартая барацьба за перамогу рабочае клясы. МЮД у сваім мінулым—гэта тыя слупы, якія адзначаюць вялікі рэволюцыйны шлях ад першых спроб організованага змаганьня з капіталізмам да бальшавіцкае барацьбы за комунізм.

Ужо з часоў рэволюцыі 1848 году мы бачым (у Аўстрыі) першыя спробы організацыі працоўнае моладзі, якія на працягу далейшых гадоў, то раскідваючыся, то зноў організуючыся, вядуць клясавую барацьбу. У канцы XIX стагодзьдзя організацыі моладзі значна пашыраюцца. У 1885 годзе зьяўляюцца організацыі ў Голяндыі, у 1886 г.—у Бэльгіі, у 1894 годзе ў Аўстрыі, крыху пазьней у Італіі і г. д. Адны з гэтых організацый моладзі больш налягалі на барацьбу супроць мілітарызму, другія вялі больш мірную барацьбу за экономічныя і культурныя, а то і выключна за культурныя патрэбы. Гэта залежала ад умоў кожнай асобнай краіны, ад цяжару таго ўціску, які быў у той ці іншай капіталістычнай дзяржаве.

### Заснаваньне Інтэрнацыяналу моладзі, яго заняпад

Адсутнасьць сувязі ў працы юнацкіх організацый розных краін, рознастайнасьць іх па сваіх мэтах, адсутнасьць адзінага кіраўніцтва гэтымі організацыямі—усё гэта значна перашкаджала посьпехам барацьбы. Шэраг таварышоў у пачатку 1900 г. робіць спробы (у гэтым ліку і Карл Лібкнэхт) утварыць сувязь паміж асобнымі соцыялістычнымі організацыямі моладзі. Гэтыя спробы зьдзяйсьняюцца скліканьнем у 1907 г. ў г. Штутгарце (Нямеччына) Міжнароднага конгрэсу соцыялістычнае моладзі. Штутгарцкі конгрэс меў дэлегатаў ад невялікага ліку краін і ад невялікага яшчэ ліку сяброў організацыі. На конгрэс зьехаліся дэлегаты ад Нямеччыны, Аўстрыі, Вэнгрыі, Італіі, Голяндыі, Швэцыі і Аўстраліі. Адным з старшынь конгрэсу быў Карл Лібкнэхт. Гэты конгрэс утварыў Інтэрнацыянал моладзі і вызначыў свае наступныя галоўныя мэты, як програму: змаганьне з мілітарызмам, культурна-асьветная праца сярод моладзі, паляпшэньне экономічнага і юрыдычнага становішча моладзі.

Але партыйныя кіраўнікі з соцыял-дэмократаў, спужаўшыся рэволюцыйных імкненьняў моладзі, пачалі адкрытую барацьбу супроць самастойнасьці юнацкіх організацый, бачачы ў іх занадта вялікую, на іх згодніцкі погляд, рэволюцыйнасьць. Асабліва ў гэтым напрамку вызначалася нямецкая соцыял-дэмократыя, якой першай удалося ўзяць пад сваю апеку організацыі рабочае моладзі Нямеччыны і зьнішчыць іх самастойнасьць. За імі пашлі соцыял-дэмократы іншых краін. Пачалося ўпартае змаганьне юнацкай організацыі. Соцыял-згоднікі зьвялі на нішто толькі што нарадзіўшыся рух моладзі.

Аднак у некаторых краінах: Італія, Швайцарыя, Швэцыя, Норвэгія, моладзь здолела ці цалком ці часткаю адстаяць сваю самастойнасьць і павесьці барацьбу з партыйнай бюрократыяй сярод працоўнага руху. Таксама ў Нямеччыне і Францыі, дзе соцыял-згоднікі перамаглі, утварыліся опозыцыйныя групы, праўда раскрышаныя, якія ў далейшыя часы сталі пачаткам новага, сапраўды рэволюцыйнага юнацкага руху.

Наогул-жа рух моладзі спаў і ўжо другі конгрэс Інтэрнацыяналу моладзі, які адбыўся ў 1910 годзе ў Копэнгагене (Данія) і 3 конгрэс (у 1912 г. ў Базэлі—Швайцарыя) прайшлі няпрыкметна і не пакінулі пасьля сябе больш-менш значнага сьледу.

### Сусьветная вайна адраджае міжнародны юнацкі рух. Памылкі ў барацьбе моладзі з мілітарызмам

Сусьветная вайна 1914 г. знашла організацыі моладзі зусім раскіданыя. Юнацкі Інтэрнацыянал нічога не зрабіў дзеля наладжваньня міжнароднае сувязі паміж асобнымі організацыямі. Інтэрнацыяналу моладзі фактычна ня было.

Вайна адрадзіла палітычную актыўнасьць організацый моладзі; яны пачалі вылазіць з-пад меншавіцкае бюрократычнае профсаюзна - партыйнае апекі. Асабліва гэроічную працу ў гэтым напрамку праводзіў саюз соцыялістычнае моладзі Італіі, які наладжваў дэмонстрацыі супроць вайны, вёў агітацыю ў арміі і г.д. Швайцарскі саюз таксама вёў вялікую барацьбу з опортунізмам, вёў шырокую антымілітарыстычную працу. Гэтыя дзьве організацыі адыгралі вялікую ролю ў адбудаваньні Інтэрнацыяналу моладзі. Амаль што ня ўсе юнацкія організацыі, за выключэньнем Нямеччыны і нямецкае Аўстрыі, выказаліся супроць вайны, супроць „грамадзянскага міру“, супроць соцыял-згодніцтва.

### Міжнародны рух моладзі выбіваецца на рэволюцыйны шлях. Першы і другі МЮД‘ы

Стараньнямі швайцарскіх, італьянскіх і швэцкіх таварышоў, у красавіку 1915 г. ў Бэрне (Швайцарыя), была склікана міжнародная конфэрэнцыя. Гэта конфэрэнцыя беспрэчна мела вялікую рэволюцыйную значнасьць у руху моладзі. Яна вызначала пэўную самастойнасьць юнацкага руху. Яна сьведчыла аб шчырым жаданьні працоўнай рэволюцыйнай моладзі ісьці на барацьбу за комунізм, яднаць навокал сябе ўсю пролетарскую моладзь, яе організоўваць для гэтае барацьбы. Бэрнская конфэрэнцыя пастанавіла штогод рабіць Міжнародны Юнацкі Дзень, у першую нядзелю верасьня месяца, калі ўсе рэволюцыйныя організацыі моладзі павінны наладжваць дэмонстрацыі, мітынгі і выступленьні пад лёзунгамі барацьбы з мілітарызмам, з соцыялістычнаю здрадаю за комунізм.

Першы МЮД быў наладжаны з кастрычніка 1915 г. Яго лёзунгам было: „далоў вайну“. Міжнароднае Бюро, абранае на Бэрнскай конфэрэнцыі, яшчэ перад кастрычнікам выдала адозву да моладзі ўсяго сьвету, накіраваную супроць вайны і соцыял-патрыотаў. На прызыў Міжнароднага Бюро адгукнулася моладзь многіх краін. Дэмонстрацыі моладзі супроць мілітарызму хваляю перакаціліся па Швэцыі, Норвэгіі, Даніі, Швайцарыі, па шмат якіх гарадох Нямеччыны, па Голяндыі, Амэрыцы, Румыніі і інш. організоўваліся буйныя дэмонстрацыі, сходы, мітынгі і г. д. У Швайцарыі, напрыклад, у іх прыняло ўдзел звыш 25.000 моладзі. У першы Міжнародны Юнацкі Дзень каля 120.000 моладзі вышла на вуліцу, дэмонструючы ня толькі супроць вайны, супроць мілітарызму, а і паказваючы гэтым сваю міжнародную еднасьць у барацьбе за пастаўленыя мэты. Першы МЮД паказаў, што рэволюцыйная моладзь стала на шлях самастойнае барацьбы, што пачалася справа зьбіраньня рэволюцыйных маладых сіл, іх паступовае аб‘яднаньне і сплачваньне спачатку пад чыста супроць ваенными лёзунгамі, а пасьля і пад лёзунгамі палітычнай барацьбы.

Другі Міжнародны Юнацкі Дзень адбыўся 3 верасьня 1916 г. Гэты дзень быў больш бурны за першы МЮД па сваім протэсьце супроць вайны. 1 мая 1916 г. быў арыштованы і кінуты ў турму ў Бэрліне Карл Лібкнэхт за організаваны ім мітынг супроць вайны. Другі МЮД праходзіў пад уплывам гэтага гвалту над правадыром рэволюцыйнай моладзі. На арышт К. Лібкнэхта юнацкія організацыі ў дзень МЮД‘у адгукнуліся вялікімі супроцьваеннымі дэмонстрацыямі, сходамі протэсту, мітынгамі. Ня гледзячы на перашкоду з боку жандараў, на ўмовы рэакцыі, якая моцна адчувалася ў часы вайны, другі МЮД абхапіў моладзь больш, як у 1915 г., і меў вялікае значэньне для міжнароднага рэволюцыйна-юнацкага руху. Як і летась, Міжнароднае Бюро выдала адозву. Было распаўсюджана шмат агітацыйнай літаратуры. Другі МЮД пашырыў значна лік сяброў Інтэрнацыяналу моладзі. Па розных краінах было прыцягнута ў Інтэрмол больш за 6.000 маладых працоўных.

Другі МЮД разам з тым прынёс і ахвяры сярод кіраўнікоў юнацкага руху. Кіраўнікі італьянскага Соцыялістычнага саюзу моладзі Ф. Марыноцці і Італо Тоскані былі арыштованы і загінулі ў турме.

### Рэволюцыйная моладзь падагульвае вынікі ў сваёй барацьбе супроць вайны

#### Трэці МЮД

Пасьля першых двох МЮД‘аў пачалася дыскусія аб тым, як змагацца з вайной. Практыка расійскай рэволюцыі вельмі яскрава паказала моладзі, як трэба весьці бальшавіцкую Ленінскую супроць-ваенную барацьбу. У дыскусіі сярод моладзі прынялі шчыры ўдзел кіраўнікі бальшавіцкага руху, у тым ліку тав. Ленін. Дыскусія гэта дала свае вынікі і ўжо 3 МЮД, які праводзіўся 2 верасьня 1917 г. значна розьніўся ад першых двох. Ён адбываўся ўжо пад лёзунгамі сусьветнае рэволюцыі. Адозва Інтэрмолу заклікала моладзь да міру народаў, але шлях да гэтага міру—барацьба з буржуазнымі ўрадамі, барацьба грамадзянская. 3 МЮД падпаў пад асабліва лютае

перасьледваньне буржуазіі. Шмат ахвяр было ў Нямеччыне. Першы раз у сьвяткаваньні Міжнароднага Юнацкага Дню прыняла ўдзел моладзь даўнейшай Расіі. Яна 15 сьнежня, па закліканьні Міжнароднага Бюро, арганізала вялізарную дэмонстрацыю ў Маскве. Моладзь Захаду вельмі горача вітала вялікую Расійскую рэволюцыю. Расійская рэволюцыя надавала моладзі больш сілы і ўпартасьці ў барацьбе, моладзь адчувала гэтую рэволюцыю сваёй, роднаю рэволюцыяй, і галоўным лёзунгам 4 МЮД'у было спачуваньне ахвярам барацьбы, еднасьць захаду з Савецкай Расіяй.

У 5 МЮД 1919 г. (7 верасьня) моладзь дэмонстравала пад лёзунгамі за Савецкую Расію, за Комінтэрн, за ўсясьветную пролетарскую рэволюцыю і дыктатуру пролетарыяту. Дэмонстрацыі ў гэты дзень мелі вельмі бурны характар. У Бэрліне салдаты генэрала Носке стралялі з кулямётаў у 3-х тысячную дэмонстрацыю моладзі.

Яшчэ ў весну 19 г., калі ў Эўропе стала вядома аб заснаваньні Комуністычнага Інтэрнацыяналу, соцыялістычныя арганізацыі моладзі Швэцыі, Норвэгіі, Італіі, Швайцарыі, комуністычныя арганізацыі Нямеччыны, Аўстрыі і інш. выказаліся за праграму Комінтэрну, далучыліся да яе.

Вядома, што паўстала пытаньне аб скліканьні міжнароднага конгрэсу, які-б азначыў новы напрамак юнацкага руху ў зьвязку з новымі палітычнымі абставінамі, закончыў-бы шлях моладзі пад комуністычныя лёзунгі.

## Першы конгрэс КІМ'у

Пасьля цэлага шэрагу перашкод, у Бэрліне 22—26 лістапада 1919 г. адбыўся конгрэс Інтэрнацыяналу моладзі. Бэрлінскі конгрэс Інтэрмолу быў адным з найвялікшых конгрэсаў, якія да яго адбываліся, па ліку прадстаўленых на ім арганізаваных пролетараў. На конгрэсе былі прадстаўнікі 14 арганізацый розных краін, ад 220.000 сяброў.

Конгрэс ухваліў арганізацыйны статут, які вызначыў патрэбнасьць срогае цэнтралізацыі. Міжнароднае аб'яднаньне юнацкіх пролетарскіх арганізацый атрымала назву „Комуністычнага Інтэрнацыяналу Моладзі—КІМ". Ухваленая праграма вызначыла патрэбнасьць бязумоўнага падтрыманьня комуністычных партый, неабходнасьць палітычна-рэволюцыйнага выхаваньня масы пролетарскай моладзі; праграма вызначыла формы дзейнасьці арганізацыі моладзі ў часы пераходнага пэрыоду ад капіталізму да соцыялізму.

Бэрлінскі конгрэс быў першым конгрэсам Комуністычнага Інтэрнацыяналу Моладзі. Ён разгарнуў новую старонку ў міжнародным пролетарскім руху моладзі.

І шосты МЮД, які праводзіўся па пастанове Бэрлінскага конгрэсу КІМ'у 5 верасьня 20 г., быў амаль што самы першы з усіх МЮД'аў па згуртаванасьці моладзі і рэволюцыйнасьці высунутых ёю лёзунгаў. У сьвяткаваньні МЮД'у прынялі ўдзел ня толькі Эўропэйскія краіны, а і Амэрыка, Мэксыка, Туніс, Алжыр, Канада і інш. 4 верасьня было ахвярована загінуўшай у барацьбе моладзі. Зьбіраліся грошы вязням капіталістычных турмаў.

Усяго ў сьвяткаваньні МЮД'у прыняло ўдзел больш 3 мільлёнаў моладзі. У шмат якіх краінах адбыліся бойкі з паліцыяй, было нямала арыштавана, зьбіта.

## Другі конгрэс КІМ'у

Пасьля Бэрлінскага конгрэсу пачалася пара аб'яднаньня сіл перадавой моладзі пад зразумелай і пэўнай комуністычнай праграмай. Надышло рэволюцыйнае зацішша. Адышла назад непасрэдная барацьба за захоп улады. Трэба было пачаць падрыхтоўку да рашучага наступленьня праз зьбіраньне, як мага больш, шырокіх мас рабочае моладзі ў рады КІМ'у. Трэба было больш стала вызначаць працу комуністычных саюзаў моладзі.

Гэтымі пытаньнямі заняўся другі конгрэс КІМ'у, які ў гэты раз, як і далей, сабраўся ў Маскве (ліпень 1921 г.). На другім конгрэсе КІМ'у прысутнічала 150 дэлегатаў ад 48 саюзаў, з 800.000 лікам сяброў. У зьвязку са зьменай палітычных абставін ён вызначыў заданьні кожных комсамолаў. Галоўная-ж праца другога конгрэсу ў тым, што ён разьмежаваў працу комуністычных партый і саюзаў моладзі.

К 7 МЮД'у КІМ даў лёзунг: „Зьбірайце масы пролетарскае моладзі, каб зрабіць з маладых пролетараў адважных, непабдзімых барацьбітоў". Сьвята ізноў шырока прашло па заходняй Эўропе. 4 верасьня паўсюды адбыліся зборы на карысьць галадаючых Савецкае Расіі. У часы дэмонстрацыі шмат якія краіны высоўвалі шэраг эканоміных запатрабаваньняў, зьбіраючы навокал гэтых лёзунгаў моладзь, гатовую вясьці барацьбу за іх выкананьне. Моладзь Савецкай краіны ўрачыста сьвяткавала 7 МЮД пад лёзунгам: „Удзел моладзі ў эканомічным будаўніцтве Савецкай Расіі". Сьвяткавала гэты дзень і моладзь усходніх краін: Манголіі, Туркестану, Хівы, Бухары Айзэрбэйджана і інш. каўкаскіх народаў.

## Адзіны фронт рабочай моладзі

8 МЮД 3 верасьня 1922 году быў магутнай дэмонстрацыяй за адзіны фронт. Амаль што не паўсюды ў гэты дзень былі тыя ці іншыя бойкі з паліцыяй. У Чэха-Славакіі саюз падлёг асабліва цяжкім рэпрэсіям. У Польшы было арыштована шмат актыўных сяброў. 8 МЮД паказаў, што гэты дзень робіцца сапраўдным днём агляду і падліку маладых растучых сіл міжнароднае пролетарскае рэволюцыі.

## Па шляху да бальшавізацыі

3 конгрэс КІМ'у сабраўся летам 1922 г., у момант самае ўпартае барацьбы за адзіны фронт. Гэты конгрэс дэталізаваў рэзолюцыі другога конгрэсу, рашуча выказаўся за пераход да



Піонэры ў Ленінскім кутку.

ячэйкавае сыстэмы ў пабудаваньні комсамольскіх арганізацый, пастанавіў вясьці і далей барацьбу за адзіны фронт, намеціў плян перагляду праграмы КІМ'у замест старой, ухваленай Бэрлінскім конгрэсам. Гэты конгрэс паставіў сабе заданьнем узмацаваць супроцьваенную прапаганду з прычыны новае пагрозы міравой вайны. Пад лёзунгамі прынятых конгрэсам пастаноў прашлі 9 і 10 МЮД'ы. Яны ўжо ставілі пытаньні аб перабудове комсамолу ў сапраўдныя бальшавіцкія арганізацыі, якія-б маглі працаваць і вясьці барацьбу паленінску.

11 МЮД у справе бальшавізацыі комсамолу адыграў вялікую ролю, замацаваў ужо пройдзены міжнародным юнацкім рухам шлях да бальшавізму.

**А. Самахвалаў**




# Уборка і захоўваньне бульбы і кораньплодаў

Бульба, а таксама і кораньплоды, у сялянскай гаспадарцы дзьве каштоўнейшыя расьліны, толькі трэба ўмець за гэтымі расьлінамі даглядаць. Уся праца па дагляду за бульбаю павінна закончыцца да моманту яе цьвяценьня. Уход за кораньплодамі спыняецца з таго моманту, як лісьцё закрые радкі, у якіх яны пасаджаны. Бяда толькі ў тым, што нашы сяляне ня прытрымліваюцца ніякага правіла: як толькі бульба ўзышла, паднялося картафляньне, дык і пашлі то лапкі, то вяршкі абрываць. Гэта надта шкодна на разьвіцьцё пладоў. Таксама й з кораньплодамі: бацьвіньне несваячасова скарыстоўваецца скацінаю.

А падругое, наша сялянства за месяц да ўборкі зжынае картафлянік, што таксама шкодзіць і прыносіць вялікую страту нашай гаспадарцы.

Калі мы раней чым у тэрмін зжынаем картафляньне або абломваем лісьце кораньплодаў, дык ураджай ад гэтага надта паніжаецца. Калі мы ўважліва прыгледзімся на разьвіцьцё гэтых дзьвюх расьлін, то заўважым, што да сярэдзіны лета як у бульбы, так і ў кораньплодаў бацьвіньне расьце, і калі мы несваечасова яе зрэжам, яно будзе расьці ізноў, выцягваць усе пажыўныя сокі ўверх і тым самым спыняецца ўзрост пладоў.

У некаторых мясцовасьцях, дзе картафляньне скошваюць за месяц да выбаркі бульбы, ураджай бульбы панізіўся да 70 проц.

Адсюль мы бачым, што бульбяніку да тэрміну зрываць ня трэба.

Адначасова бульбянік, а таксама і батва кораньплодаў самы лепшы харч для скаціны. Дзеля таго, каб зьберагчы гэты харч, за тыдзень да ўборкі бульбы бульбянік трэба зжаць, высушыць, а зімою ён рэжацца на сечку, якую як каровы, так і сьвіньні паядаюць з ахвотаю. Бульбянік па харчоўнасьці замяняе:

1 фунт добрага сена раўняецца па харчоўнасьці
4 фунтам сечкі з бульбяніку
4 „ „ бураковага лісьця
$5^1/_2$ „ „ кармовае батвы
$5^1/_2$ „ „ бручкавага лісьця.

Адсюль мы бачым, што бульбянік мае нейкую каштоўнасьць, і мы павінны старацца, каб ён дарам не прапаў, а быў схарчованы скацінаю.

### Як капаць бульбу

Пры выбарцы бульбы і кораньплодаў з зямлі трэба глядзець, каб чым найменш папсавалася рыдлёўкаю. Папсутая бульба ці кораньплоды, ссыпаныя ў склеп, загніюцца і заразяць здаровую. Бульбу і кораньплоды трэба выбіраць у сухую цёплую пагоду, каб бульба была чыстая ад зямлі, бо застаўшаяся зямля зімою ў пограбе прэе і ад гэтага загніваецца бульба. Усё папсутае карэньне як бульбы, так і кораньплодаў трэба складаць паасобна ад здаровага і выкарыстоўваць у першую чаргу.

Здаровую бульбу можна ссыпаць або ў склеп, або ў капцы. Для ям або куч выбіраецца сухое месца, якое ня можа быць падмыта ні дажджавою ні сьнегавою вадою. Апроч гэтага, капец павінен мець прадушыну. Робіцца гэта зусім проста: насыпаецца бульба, а паверх кладзецца гладкая жэрдка прыблізна ў адну чвэртку таўшчынёю, жэрдка акручваецца жытняю саломаю, паверх саломы кучу закрываюць зямлёю. Праз некалькі дзён, як зямля асядзе, жэрдку можна выцягнуць. Такім чынам пасьля жэрдкі застаецца дзірка праз увесь капец. Самы правільны спосаб захаваньня бульбы гэта вось які: насыпаецца ў кучу бульба, накрываецца саломаю таўшчынёю 3—4 в., робіцца прадушына, наверх саломы насыпаецца зямля, пасьля зноў пласт саломы, пасьля наверх саломы пласт зямлі таўшчынёю $^1/_2$ аршына. Такім самым спосабам захоўваюцца і кораньплоды.


Уборка канюшыны.

У цёплую восень капец засыпаць на належную таўшчыню адразу ня можна, каб карэньне і бульба не нагрэліся і не загнілі.

Земляную пакрышку робяць з наступленьнем марозаў. Усё робіцца ў залежнасьці ад марозаў: калі зіма халаднейшая, то пакрышку трэба рабіць таўшчэйшую, і наадварот.

Вось тыя прыёмы, пры якіх мы можам захаваць бульбу ад псаваньня.

**Падлужны**

# Як трэба мачыць лён

Лён у сельскай гаспадарцы зьяўляецца неабходнаю расьлінаю; папершае кашуля з ільну, алей таксама, і куды ня кінь дык лён шмат дапамагае селяніну ў жыцьці, толькі бяда што сяляне не клапоцяцца занадта аб ім. Укінуў у зямлю, апалоў ці не апалоў, а няхай расьце. А як прыдзе тая пара, што ўжо трэба яго рваць, а потым і слаць на прамочку, дык таксама робіцца зусім несьвядома.

Дзеля таго каб мець добрае валакно неабходна яго добра вымачыць. Мочка ільну бывае 2-х спосабаў. Лён сьцелецца пад расу дзе-небудзь на поплаве і кладзецца адразу, пасьля адняцьця галовак, у ваду. Аб тым які спосаб з іх лепшы, дык у нашых сельскіх абставінах мочка на расе, як спосаб просты, які менш адымае часу. Але можна адзначыць, што лён мочачы гэтым спосабам добра ня вылежваецца з тэй прычыны, што ён сьцелецца не ў такім ужо забароненым месцы, скаціна і вецер яго блытаюць, а падругое, не аднолькава вылежваецца. Сподні пласт заўсёды вылежваецца ляпей чым верхні. Калі ўжываць спосаб мочкі па расе, дык лён трэба слаць у мокрую пару, бо чым макрэй месца тым лён хутчэй вылежваецца. А калі ў часе яго расеньня стаіць сухая пагода, дык бязумоўна расеньне затрымоўваецца і валакно робіцца нямоцнае.

Пры гэтым спосабе мочкі выбіраецца сухое роўнае месца пакрытае травою, забароненае як ад ветру, так і ад скаціны, расьсьцілаецца чым раней. Як паслужыць добрая цёпла дажджлівая пагода лён вылежваецца праз 4 тыдні, а пры халоднай пагодзе—праз 6 тыдняў.

Пры другім спосабе,—мочка ў вадзе, валакно атрымоўваецца лепшае і хутчэй вымочваецца. Апроч бягучае вады лён яшчэ мочаць у стаячай. Дзеля гэтага недалёка ад рэчкі выкопваецца яма глыбінёю ня больш 2 аршын, пушчаецца туды чыстая вада і лён карэньнямі кладзецца ў ваду. Пры гэтым спосабе мочкі лён вымочваецца праз 14 дзён.

Пасьля таго, як лён вымакне яго трэба прасушыць, а пасьля прасушкі, каб лён зьлежаўся кладуць у хлеў на месяцаў паўтара. Ад гэтага лён робіцца лепшым па якасьці, бліскучым і моцным, а таксама пры цёрцы і трапаньні лепш адстае кастрыца.

**З. М-іч**

# Перасадка дарослых дрэў

У зьвязку з зямляўпарадкаваньнем часта даводзіцца перасаджваць дарослыя пладовыя дрэвы з аднаго месца на другое. Маючы на ўвазе такую перасадку, трэба дрэва падрыхтаваць да яе своечасна. Пры перасадцы старога дрэва трэба выклікаць у яго рост маладых карэньняў і па магчымасьці бліжэй да ствала, бо перасаджанае дрэва, маючы такія карэньні, будзе зараз-жа пасьля перасадкі здабываць з зямлі патрэбны лік мінэральных матэрый і вады, і, знача, хутчэй і лепш прымаецца.

Дзеля гэтага ў пачатку восені або рана вясной дрэва акапваецца навокал канавай на адлегласьці ½—1½ арш. ад ствала, у залежнасьці ад узросту, і глыбінёю каля 1 арш. Усе карэньні пры гэтым перасякаюць сякераю, а раны загладжваюць нажом. Калі гэта зроблена, канаву засыпаюць зямлёю, перамяшаўшы яе з кампостам або старым перагніўшым гноем і добра паліваюць вадой.

У працягу лета перарэзанае карэньне дасьць новыя карэнчыкі і мочкі, і ўвосень або наступнай вясною дрэва ўжо можна перасаджваць на новае месца. Пры перасадцы яму капаюць далей вяршкі на 3—4 чым першы раз, каб не пашкодзіць маладым карэнчыкам. Для пасадкі своечасна выкапваюць ямку, на дно яе насыпаюць добрае зямлі і на гэту зямлю ставяць дрэва, засыпаюць добрай зямлёй і паліваюць.

Садзіцца дрэва на такую-ж самую глыбіню, на якой яно сядзела раней. Пасьля пасадкі дрэва прывязваецца да калка. Для абароны ад сонцапёку ў першае лета пасьля пасадкі ўвесь штамб і тоўстыя сукі павінны быць абвязаны мохам ці саломаю, якую патрэбна час-ад-часу паліваць, каб зьберагчы кару ад высыханьня.

Глебу пад дрэвам таксама трэба паліваць і прыцяняць саломаю, лісьцем, гноем і інш.

Карона пры перасадцы абразаецца на ⅕ або на ⅓ у залежнасьці ад стану карнявой сыстэмы,—чым карэньняў менш і чым больш пры выкапваньні яны былі пашкоджаны, тым абрэзка кароны робіцца большая, і наадварот.

Ня трэба абразаць усе маладыя галінкі, бо яны даюць дрэву магчымасьць распусьціцца вясной своечасна.

Парэзы (раны) на галінах замазваюцца садовай замазкай. Перасадку выносяць пладовыя дрэвы ва ўзросьце ня больш 20—25 г. Больш старыя перасаджваць ня варта. Гады праз 3—4 перасаджанае дрэва ўжо пачынае добра пладанасіць.

**А. Карлсон**



# Што чытаць

**Журык—„Як у Даніі кормяць кароў“.** *Выд. Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі. Менск 1926 г. 24 стар. Цана 8 кап.*

У гэтай кніжцы аўтар піша ня толькі аб тым, як у Даніі кормяць кароў, але і які прыклад яны даюць нам, беларускім сялянам, у гэтым напрамку. Падыходзячы да сваёй тэмы, аўтар, прыблізна, вось што зазначае.

Данія—старонка цікавая для нас тым, што ў ёй вельмі добра пастаўлена жывёлаводзтва. 50 год таму назад гаспадары Даніі былі амаль не бяднейшыя ад нашых беларускіх. Усе маладыя людзі ўцякалі ў чужыя краіны, дзе наймаліся на фабрыкі рабочымі і г. д., але потым яны ўбачылі, што гэтым не палепшыш свайго становішча. Гаспадары Даніі пачалі больш цікавіцца сваёю гаспадаркаю, пачалі сеяць на сваёй пяшчанай глебе кармовыя буракі, травы і трымаць больш жывёлы. На гэтых палёх датчане цяпер зьбіраюць з дзесяціны такія ўраджаі: пшаніцы—291 пуд, ячменю—233 пуд., аўсу—239 пуд., бобу—221 пуд, кармовых буракоў—4.400 пудоў.

Усе караньплоды аддаваліся каровам на харч, ад гэтага яны сталі атрымліваць больш малака і масла, і датчане сталі багацець.

Трэба і нам, беларусам, пачынаць з таго, каб сеяць больш караньплодаў і кармовых траў, развадзіць больш жывёлы і аб'яднацца ў коопэрацыйныя арцелі для збыту малака і іншых продуктаў. У гэтым напрамку нашы беларускія гаспадары павінны ісьці па шляху да тэй культуры, па якому ішлі і датчане.

Далей аўтар гаворыць аб тым, які лепш корм даваць каровам і колькі. У кніжцы гэтае пытаньне досыць дакладна і дасканала распрацавана.

У разьдзельчыку „Колькі трэба даваць корму карове, каб яна давала больш малака“, аўтар піша: „У Даніі кормяць кароў па вазе, каб ведаць, колькі даць карове корму, бо калі карова не даядае, то яна становіцца худою і зьмяншае малака, а калі даваць больш, чым ёй трэба, то яна становіцца тлустай і дае менш малака. Гэта бывае, калі корм даюць на вока... Дзеля таго, каб выважыць карову, датчанін бярэ мерку ў вяршкох і зьмервае карову. Першы вымер, даўжыня, павінен быць зроблены ад сярэдзіны хібу да кораню хваста, а другі—акружына грудзей ззаду лапатак. Перамножыўшы лічбы абодвых вымераў, мы атрымаем жывую вагу каровы ў фунтах. Напрыклад: карова даўжынёю 22 вяршкі, таўшчыня яе 26 вяршкоў. Перамножыўшы 22 на 26, будзем мець 592 фунты ці 16 пудоў 32 фунты. На 3 пуды жывога весу трэба адна кармовая адзінка. За кармовую адзінку бярэцца адзін фунт сярэдняга аўсу (таксама ёсьць табліца пераводу сена, канюшыны і г. д. у кармовыя адзінкі).

У гэтай кніжцы яшчэ пішацца: калі карміць кароў, у якім парадку павінен быць хлеў, ёсьць распрацаваныя правілы догляду за каровамі.

Наогул кніжка каштоўная для беларускага селяніна, напісана досыць жвава, зразумела, прытым яна вельмі танная і пажадана, каб яе набыў кожны гаспадар.

**Ів. Гарбуз**

## Паштовая скрынка.

**А. Малевічу.** На твой ліст рэдакцыя адказвае, што яна мае права даваць факты для скарыстаньня другой асобе, калі допіс у такім выглядзе, якім ён дасланы ў рэдакцыю, зьмешчаны быць ня можа.

**А. Куколю.** Верш „Белыя туманы“ слабы. Друкавацца ня будзе. Раім табе больш пісаць допісаў, больш чытаць творы маладнякоўцаў і старых пісьменьнікаў, а пасьля, калі твая мова будзе ўзбагачана вялікім запасам слоў, вобразаў,—можаш прыступіць да пісаньня вершаў. Не ганіся пісаць, а лепш чытай, прычым у тваіх вершах шмат перайманьняў з вершаў расійскага поэты Лермантава. З аднага боку гэта дрэнна. Пераймаць можна, але копіраваць (сьпісваць)—ня раім.

**Макоўскаму Б.** Верш „Навальніца“ ня пойдзе. Слабы.

**Да нашых дапісчыкаў юнкораў.**

1. У бліжэйшых нумарох „М. А.“ рэдакцыя дасьць адказы на ўсе атрыманыя ёю запытаньні. У далейшым рэдакцыя будзе сыстэматычна даваць адказы на ўсе тыя запытаньні, якія будуць засылацца падпісчыкамі нашае часопісі, пры ўказаньні нумару падпісачнага квіта.

Рэдактары: **Іл. Барашка. Я. Галодка.**

# Навука і тэхніка

### Наўкола сьвету бяз ног

Амэрыканскі афіцэр, страціўшы абедзьве нагі ў часе міравое бойкі, за вялікую ўзнагароду наняў 2-х спортсмэнаў, якія павінны правесьці яго наўкола сьвету—у ручной каламашцы.

### Агнягасіцелі без вады

Калі спыніць доступ паветра да агню, то агонь адразу пагасьне. Па гэтаму прынцыпу і пабудован новы агнягасіцель, які тушыць агонь не з дапамогаю вады, а з дапамогаю пылу і ўглекіслага газу. Агнягасіцель складаецца з двух конусаў: у большым з іх захоўваецца пыл, а ў меншым—углекіслата. Калі мы пераверием гэтыя конусы шырокаю часткаю ўверх і адчынім клапан, які злучае абодва конусы, то з прадухі вырвецца слуп пылу і газу, які стварае пад вагнём нешта падобнае да вялікага пакрывала, не прапускаючага праз сябе паветра. Гэтакім чынам кіслярод да агню не даходзіць і агонь гіне сам-па-сабе.

### Жыцьцё на Марсе

Нагляды над Марсам, якія адбываліся ў апошні час, кажуць нам аб тым, што там магчыма жыцьцё расьлін. Марс у палярных краінах мае тэмпэратуру надта нізкую, за 70 градусаў. Што датычыцца „каналаў“, адчыненых некалі на Марсе Італьлянскім астраномам Скіпэрэлі, то лініі гэтых „каналаў“ об'ектыўна існуюць. Ёсьць магчымасьць думаць, што на паверхні Марса існуюць тэрыторыі, якія маюць мяккі клімат, арашаемыя вадою і пакрытыя расьлінамі. У такім выпадку цяжка дапусьціць, каб на гэтых тэрыторыях зусім не існавала і жывотнае жыцьцё. Але даказаць апошняе яшчэ немагчыма. Марс—плянэта. У мінулым яна была пакрыта акіянамі, гарамі, і на ёй, мусіць, працвятала багатае і рознавобразнае жыцьцё...

### Новы спосаб выяўленьня хваробы

Нямецкі вучоны Вэйс зладжыў прыбор, пры дапамозе якога можна па жывым чалавеку бачыць крывабежныя жылкі скуры—капіляры і праходзячую па іх крош.

Прыбор складаецца з мікроскопа, на прадметным століку якога знаходзіцца равок дзеля пальца таго, каго трэба абсьледваць. З боку мікроскопа ставіцца лямпа ў 200 сьвеч, сьвет ад якое накіроўваецца на палец, або да самага мікроскопа прымацоўваецца спэцыяльная маленькая лямпачка. Пры розных хваробах выгляд капіляраў і рух крыві па іх мае розныя асаблівасьці, якія дапамагаюць доктару выявіць тую ці іншую хваробу.

### Падводны аэроплян

У амэрыканскім флёце нядаўна рабіліся вопыты з падводным аэроплянам. Гэта злучэньне самалёта з падводнай лодкай. Ён спускаецца пад ваду пры дапамозе дзьвюх забіраючых ваду плоскасьцяй. Калі матор пад вадою папсуецца, аэроплян аўтаматычна ўзьнімаецца на ваду. Летчык сядзіць у шкляной будцы. Машына каштуе ў 10 разоў таней за падводную лодку.

---

*(Працяг апавяданьня „Комсамольцы“)*

— Ну вось... І раскажэце мне... Я-ж вам ня чужы—таварыш...

Ззаду затрашчэла лава, праз якую пралез Міхась, прыбліжаючыся да стала. Несьцярпела батрацкае сэрца... Даўно, даўно гострымі кіпцюрамі нешта балюча скрэбла ў грудзёх... Пачало яшчэ ў той вечар, калі Сьцяпан разгарнуў на стале размалёваную газэту.

— Ды чаго там, хлопцы, скрываць?.. Каго?.. Сьцяпана?.. За вошта?.. Што пасьмяяўся над намі?.. Паслухалі раз—досыць!..—і, зьвяртаючыся да Кудраўскага, палка дадаў:

— Гэта Сьцяпан пісаў... Напаіў нас... Абдурыў, а мы згадзіліся... Вось як,—і ад таго, што за бутэльку гарэлкі яны так злосна пасьмяяліся над Ганнаю і сабою, яму стала балюча і сумленна—ён нахіліў галаву і пакручваў у руках шапку.

Сьцяпан сядзеў і кусаў губы... А калі Міхась выказаў усе сакрэты, ускапіўся на ногі і, скрыгочучы зубамі, голасна выкрыкнуў:

— Міхась хлусіць!.. Няпраўда!.. Ня я пісаў!.. Яны самі!..

Яму не далі скончыць. Сьцяпанавы словы моцна рэзнулі хлапцоў, як вострымі нажамі.

— Сам хлусіш!..

— Праўду Міхась сказаў!..

— У-у-у-у... Сабача п'яўка!.. Абдурыў нас!—крыкнуў Пятрусь і, пераскакваючы праз лаву, бледны, з пакрыўленым ад злосьці ротам, падбег да Сьцяпана з кулакамі.

Кудраўскі спыніў яго.

Калі сьціхала, Пятрусь падышоў сам да стала і расказаў усё, як было. Хлопцы слухалі і, пацьвярджаючы, ківалі галавамі.

* * *

Доўга гаварыў Кудраўскі—з увагаю слухалі яго хлопцы, апрача аднаго Сьцяпана, што выбег з пакою, забыўшы на лаве сваю зялёную, з чорнымі кантамі студэнцкую шапку, што купіў яму нядаўна бацька.

У канцы, кожны ўстаўляючы па слову,—склалі:

1. Сьцяпана Клочку выключыць з комсамолу і прыцягнуць да суду за хлусьні і абразу над Ганнаю Гарбачоваю і ўсімі намі.

2. На грамадзкім сходзе апавясьціць, што газэту напісаў сам Сьцяпан Клочка.

3. Міхася Боўтуза зрабіць сакратаром ячэйкі.

4. Ганну Гарбачову залічыць у комсамол, пра што прасіць райком. Дапамагчы ёй скасіць дзесяціну жыта, што за хваробаю не магла справіцца.

Калі сход кончыўся, Міхась падышоў да Ганны і, нахіліўшы галаву, ціха прагаварыў:

— Выбачай, Ганна, мяне, да і ўсім хлопцам... Абразілі цябе... Гэтага больш ня будзе... мы...—Ён яшчэ штось хацеў сказаць, але ня мог—пачырванеў, пераступіў з нагі на нагу і абарваўся.

Ганне было радасна ад простых, засаромленых слоў Міхася, а яшчэ больш радавала яе тое, што яна зноў у сваёй роднай комсамольскай сям'і...

Вузенькім колам абкружылі Ганну хлопцы і дружна загаманілі між сабой, як і раней.

А Кудраўскі стаяў каля стала і, падпершы галаву рукою, думаў пра Пятрыкоўскіх комсамольцаў...

Пераклаў **Я. Шкадарэвіч.**

# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА ДА КАНЦА 1926 ГОДУ

НА НАСТУПНЫЯ ПЭРЫЯДЫЧНЫЯ ВЫДАНЬНІ

## ВЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

### „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

ГАЗЭТА

**Орган ЦК ЛКСМБ і Менскага Акруговага Камітэту ЛКСМБ.**

Выходзіць тры разы на тыдзень. Дае кіраўнічы матэрыял па пытаньнях комсамолу, асьвятляе жыцьцё гораду і вёскі, зьмяшчае фэльетоны з комсамольскага жыцьця, апошнія навіны са ўсяго сьвету, багата ілюструецца.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ**

На 1 м-ц—25 кап. На 6 мес.—1 р. 50 к. На 3 м-цы—75 к. На 1 год—3 р. — к.

**Гарантуецца акуратная дасылка ва ўсе гарады і вёскі.**

### „БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР“

**Дзіцячая часопісь ЦК ЛКСМБ і Наркамасьветы БССР.**

Выдаецца адзін раз у м-ц, багата ілюстравана. „Б П“ зьмяшчае цэлы шэраг матэрыялаў, якія цікавяць дзяцей і памагаюць ім у працы (піонэр. арганізац.).

**У часопісі прымаюць удзел усе лепшыя літаратурныя сілы Бел.**

**УМОВЫ ПАДПІСКІ**

На 1 м-ц—20 к. На 6 мес.—1 р. 20 к. На 3 м-цы—60 кап. На 1 год—2 руб. 40 кап.

**Часопісь, апрача гэтага, прадаецца ва ўсіх кнігарнях і кіосках Дзярж. Выд. Бел.**

### ЦІ ПАДПІСАЛІСЯ

на ілюстраваную часопісь сялянскай моладзі

### „МАЛАДЫ АРАТЫ“

самую пашыраную і самую танную беларусскую двухтыднёвую часопісь.

„МАЛАДЫ АРАТЫ“ на сваіх старонках праводзіць гутаркі аб палітыцы, мае сталы літаратурны аддзел, сельска-гаспадарчы, высьвятляе жыцьце вескі, друкуючы допісы вясковай моладзі, а таксама жыцьце і працу гарадзкой моладзі, зьмяшчае п'есы, песьні, частушкі, загадкі, шарады і гульні, аддзел гумару, дае парады моладзі — што чытаць, мае навукова-тэхнічны аддзел з практычным сельска-гаспадарчым ухілам і інш.

У часопісі супрацоўнічаюць звыш 200 сталых карэспандэнтаў, а таксама беларускія палітычныя і літаратурн. дзеячы.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**

На 1 м-ц —15 к. На 3 м-цы—45 к. || На 6 м-цаў—90 к. На 1 год—1 р. 80 к.

Згодна умовы з Дзяржаўным Выдавецтвам Беларусі і з экспэдыцыяй канторы „Звезды“ гарантуецца акуратны выхад і дасылка часопісі ва ўсе гарады і вёскі. Апрача падпіскі часопісь патрабуйце ў кіосках і газэтчыкаў.

**Кожны вясковы комсамолец павінен абавязкова чытаць „Маляды Араты“**

### „ЮНГЕР АРБЭЙТЭР“

**Штодыднёвая газэта яўрэйскай моладзі гор. і мястэчка.**

**Орган Яўрэйскай Сэкцыі ЦК ЛКСМБ**

на сваіх старонках асьвятляе жыцьцё яўрэйскай моладзі гораду і мястэчка, налічвае вялікі лік уласных дапісчыкаў, зьмяшчае на сваіх старонках кіраўнічы матэрыял.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ**

На 1 м-ц —15 кап. || На 6 м-цаў—90 кап.
На 3 м-цы—45 кап. || На 1 год-1 р. 80 кап.

**Яўрэйская моладзь павінна чытаць „ЮНГЕР АРБЭЙТЭР“.**

### „ЮНГЕР ПІОНЭР“

**піонэрская газэта на яўрэйскай мове**

**Выходзіць чатыры разы на месяц.**

Праграма газэты: кіраўнічыя артыкулы па піонэрскому пытаньню, навіны са ўсяго сьвету, літаратурны матэрыял, гульні, загадкі, рэбусы, асьвятленьне жыцьця яўрэйск. школ і піонэрскіх атрадаў.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ**

На 1 м-ц —10 кап. || На 6 м-цаў—60 кап.
На 3 м-цы—30 кап. || На 1 год-1 р. 20 кап.

**ПАДПІСКА НА ВЫДАНЬНІ ВЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“ ПРЫМАЕЦЦА ПРАЗ ЯЧЭЙКАВЫХ УПОЎНАВАЖАНЫХ: У ГАЛОЎНАЙ КАНТОРЫ „ЗВЕЗДЫ“ (МЕНСК, САВЕЦКАЯ, 63). УВА ЎСІХ ПАШТОВЫХ АДДЗЯЛЕНЬНЯХ, УВА ЎСІХ АДДЗЯЛЕНЬНЯХ І АГЕНЦТВАХ БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА ВЫДАВЕЦТВА.**

**Адрэс рэдакцый усіх памянёных выданьняў: Менск, Комсамольская 25, тэл. 903.**



Менск. 1-я дзярж. друк. Зак. № 3695. Галоўлітбел № 20274.